Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4758) 28 лютага 2014 г.






*1 і 2 сакавіка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі адбудуцца прэм'ерныя паказы оперы «Рыгалета» Джузепе Вердзі. Літаратурнай асновай спектакля стала драма Віктара Гюго «Кароль забаўляецца». Дзякуючы майстэрству эстонскага рэжысёра Неэме Кунінгаса вобраз страшнага і адначасова няшчаснага гарбуна Рыгалета раскрываецца зусім нечакана.*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў трохразовай алімпійскай чэмпіёнцы, біятланістцы Дар'і Домрачавай Зорку Героя Беларусі. Алімпійскія чэмпіёны Антон Кушнір, Ала Цупер і бронзавы прызёр Надзея Скардзіна ўганараваныя ордэнам Айчыны III ступені. Героі Алімпіяды з'яўляюцца гордасцю і здабыткам беларускага народа, падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы падчас цырымоніі ўшанавання пераможцаў і прызёраў XXII Зімовых Алімпійскіх гульняў у Сочы. Алімпійцы прынеслі нашай краіне сусветную вядомасць.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў калектыў Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. П. Шамякіна з 70-годдзем з дня заснавання. «ВНУ ўпэўнена прайшла шлях ад настаўніцкага інстытута да буйнога адукацыйнага, навуковага і культурнага цэнтра Палесся, — гаворыцца ў віншаванні. — За ўсю гісторыю яна дала пуцёўку ў жыццё больш як 40 тысячам выпускнікоў, многія з якіх сталі вядомымі дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі і спартсменамі, таленавітымі педагогамі, выдатнымі кіраўнікамі і спецыялістамі ў розных галінах».

✔ Кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў ордэнам Францыска Скарыны мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Дзяржаўнага камернага аркестра «Віртуозы Масквы», прэзідэнта Маскоўскага міжнароднага дома музыкі Уладзіміра Співакова. Музыкант уганараваны за значны асабісты ўклад у развіццё і папулярызацыю класічнага мастацтва, вялікія заслугі ва ўмацаванні культурных сувязей паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь.

✔ Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны дырэктар Літоўскага мастацкага музея Рамуальд Будрыс і былы саліст Літоўскага нацыянальнага тэатра оперы і балета Яўген Васілеўскі — за значны асабісты ўклад ва ўмацаванне і развіццё беларуска-літоўскага супрацоўніцтва ў галіне культуры, захаванне нацыянальных традыцый і папулярызацыю беларускай культуры за мяжой.

✔ Працягваецца падрыхтоўка да Чэмпіянату свету па хакеі. Паводле намесніка міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка, за тыдзень да яго пачатку ўсе музейныя ўстановы краіны, за выключэннем Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пяройдуць на новы рэжым работы: прымаць наведвальнікаў будуць не толькі днём, але і ноччу. Упершыню каля Палаца спорту вырашана правесці рэспубліканскі фестываль-кірмаш рамёстваў «Вясновы букет». Рыхтуецца выстаўка сучаснага мастацтва, якая будзе складацца з двух вялікіх раздзелаў: «Беларускі авангард за 100 гадоў» і «Актуальнае мастацтва».

✔ 1 сакавіка на філалагічным факультэце БДУ адбудзецца ўрачыстая цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў II Рэспубліканскага конкурсу творчых прац школьнікаў «Людзі і словы», арганізатарам якога выступіў савет маладых вучоных факультэта. Конкурс ахапіў усю Беларусь. Больш як 600 старшакласнікаў даслалі свае сачыненні, прычым палова выкананая на беларускай мове. Узнагародамі адзначаны 100 канкурсантаў.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

# З улікам сённяшняга дня


Фота Кастуся Дробава

Днямі ў мемарыяльнай зале Дома літаратара адбыўся «круглы стол» з удзелам кіраўнікоў рэспубліканскіх СМІ, тэлевізійных каналаў Белтэлерадыёкампаніі і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Тут былі разгледжаны найбольш надзённыя пытанні, звязаныя з сучасным станам айчыннага прыгожага пісьменства.

Ва ўступным слове старшыня СПБ Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што грамадская арганізацыя працуе актыўна: у падтрымку маладых аўтараў штогод вылучаюцца стыпендыі СПБ, прадстаўнікам старэйшага пакалення саюз аказвае матэрыяльную дапамогу, рэгулярна праводзяцца разнастайныя творчыя конкурсы, у тым ліку прысвечаныя знакавым гістарычным падзеям, такім, як Першая сусветная і Вялікая Айчынная войны.

Мікалай Іванавіч адзначыў: Саюз пісьменнікаў Беларусі імкнецца да пашырэння творчых стасункаў. Дзякуючы сучасным інфармацыйным тэхналогіям творчая арганізацыя мае магчымасць адсочваць рэйтынгі кніг беларускіх аўтараў сярод наведвальнікаў бібліятэк. Акрамя таго, сістэматычна ладзяцца пісьменніцкія паездкі па рэгіёнах Беларусі з мэтай назапашвання матэрыялу для новых твораў і сустрэчы з чытачамі. Сёлета адноўлены выпуск друкаванага органа Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — часопіса «Белая Вежа».

Паводле Першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лiлii Ананіч, сёння літаратарам варта аналізаваць рэгіянальныя СМІ, айчынную грамадска-палітычную прэсу. Павінна мець месца ўзаемная каардынацыя падачы карыснай і цікавай інфармацыі, каб літаратура ўяўляла сабой вуліцу з двухбаковым рухам.

М. Чаргінец дадаў, што трэба больш актыўна пісаць пра новыя кнігі, асвятляць у СМІ мастацкія творы для моладзі і літаратуру ваеннага пакалення.

Паводле меркавання галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская думка» Вадзіма Гігіна, недастаткова поўнае асвятленне ў сучаснай беларускай перыёдыцы атрымалі юбілеі класікаў, у прыватнасці, круглыя даты з дня нараджэння Максіма Танка і Аркадзя Куляшова. Акрамя таго, ён адзначыў, што айчынным СМІ сёння бракуе добрай літаратурнай крытыкі, таму ў гэтай галіне трэба займаць больш актыўную грамадзянскую пазіцыю і ў кожным нумары таго ці іншага перыядычнага выдання друкаваць якасныя крытычныя матэрыялы, адначасова ствараючы формы і спосабы прэзентацыі новых кніг. М. Чаргінец падкрэсліў: каб дапамагчы літаратуры стаць сапраўднай, крытыка павінна быць не разбуральнай, а канструктыўнай.

Пісьменнік Васіль Шырко зазначыў: ні СМІ, ні літаратуры нельга быць абыякавымі да рэалій сённяшняга дня, пісьменніка павінны хваляваць усе з'явы і падзеі грамадскага жыцця, у тым ліку і дасягненні беларускіх спартсменаў-алімпійцаў.

Намеснік генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Сяргей Кравец падкрэсліў, што мэта пісьменніцкай арганізацыі заключаецца ў тым, каб самастойна зарабляць грошы на культурныя і грамадскія праекты. У бліжэйшых планах Літфонду — правядзенне 9 мая на Кургане Славы вялікага святочнага канцэрта да Дня Перамогі. Таксама сёлета будзе шырока адзначацца 80-гадовы юбілей СПБ. А 3 ліпеня пройдуць мерапрыемствы, прымеркаваныя да яшчэ адной вялікай падзеі — 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На заканчэнне сустрэчы Лілія Ананіч яшчэ раз засяродзіла ўвагу прысутных на тым, наколькі важным з'яўляецца забеспячэнне двухбаковага руху на вуліцы пад назвай Літаратура.

**Яна ЯВІЧ**

# «Белая вежа» ў новым статусе

Убачыў свет першы нумар абноўленага, павялічанага ў аб'ёме часопіса «Белая вежа», які не выходзіў амаль год. Да ранейшага заснавальніка — Міжнароднага саюза грамадскіх аб'яднанняў «Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы» — далучыўся Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, які ўзначальвае прафесар Васіль Дадалка.

Змяніўся і статус выдання. Цяпер гэта літаратурна-мастацкі, духоўна-асветніцкі і навуковы часопіс на беларускай і рускай мовах. Члены рэдакцыйнага савета — слынныя літаратары, вядомыя вучоныя Беларусі і Расіі.

Пашырыць далягляды пазнання прызваны грунтоўны, унікальны часопіс «Белая вежа». Падобнага выдання па тэматычным дыяпазоне няма ні ў Беларусі, ні за межамі. На яго старонках сваімі ідэямі і поглядамі падзяляцца вядомыя пісьменнікі, прадстаўнікі духавенства, цікавыя асобы.

Не пакінуць абыякавымі чытачоў урыўкі з рамана Мікалая Чаргінца «Аперацыя «Кроў», лірыка народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, глыбокія па змесце вершы Івана Пераверзіна, Генадзя Іванова, Станіслава Куняева, Міколы Мятліцкага, Барыса Арлова…

Далёка не ўсе чытачы, асабліва ў Расіі, знаёмы з байкамі Кандрата Крапівы, які, паводле вобразнага выразу слыннага драматурга Андрэя Макаёнка, «мог і Эзопа патрымаць за бараду». Не кампліментарнай, а прадуманай літаратурнай крытыкай здзівяць Юрый Арлоў і Валянцін Курбатаў.

Шырока прадстаўлена публіцыстыка. Уладзімір Гусеў разважае пра мастацкасць прозы, яе ўздзеянне на душы і сэрцы людзей. Пра хрысціянскія традыцыі піша Барыс Тарасаў. Святар Павел Баянкоў распавядае пра крэпасць Асавец, а Вольга Клімашэўская — пра Алімпіяду ў Сочы і першыя алімпійскія гульні ў Францыі.

**Васіль ЖЫВІЦА**

# Праца і адказнасць

Дзень святога Валянціна адзначылі і члены Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі: у сталічнай бібліятэцы імя Янкі Купалы яны чыталі вершы пра каханне.

Літаратурна-музычнае свята «Для тых, хто кахае…» вяла член СПБ, паэтэса Іна Фралова. Першымі слова бралі Людміла Клачко (самая маладая сярод сяброў СПБ) і Міхась Башлакоў. На пытанне «Што такое каханне?» яны адказалі па-рознаму. Людміла прызналася, што «сапраўды кахаць можна толькі з таго часу, як спазнаў чалавека». А Міхась Захаравіч адказаў па-філасофску: «Каханне — гэта праца пачуццяў і вялікая адказнасць».

Перад прысутнымі выступілі таксама паэтэса Ірына Тулупава, якая чытала свае вершы, а пісьменнік Сяргей Трахімёнак спяваў пад гітару.

Пасля выступалі Аліна Легастаева і крэатыўны Юрась Нераток. Парадавалі вершамі Мікола Шабовіч і Лізавета Палеес. Мікола Віктаравіч шчыра прызнаўся, што вельмі часта ўспамінае сваё першае каханне, бо дзякуючы яму ён і пачаў пісаць вершы. А завяршалі чытанні старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэт, празаік, перакладчык Міхась Пазнякоў і Іна Фралова. Міхась Паўлавіч прачытаў некалькі сваіх твораў, а Іна — пераклады вершаў Валянціны Паліканінай.

Зацікавіла прысутных і фотавыстаўка Віктара Суглоба, які распавёў пра любоў да пейзажаў (іх у асноўным ён і здымае), пра сваю фоташколу, калекцыю фотаапаратаў і ўнікальную кнігу «1200 фотаапаратаў з СССР», суаўтарам якой ён з'яўляецца.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

*Незабыўнае*

# Сёмкава: каб памяталі

У межах мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 25 лютага ў вёсцы Сёмкава Мінскага раёна адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, якая сведчыць пра выратаванне дзіцячых жыццяў і подзвіг партызан брыгады «Штурмавая».

Дзіцячы дом у Сёмкаве быў створаны для беспрытульнікаў напрыканцы 1920-х гадоў у былым шляхецкім маёнтку XVIII ст. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны яго выхаванцаў не паспелі эвакуіраваць, разам з выхавальнікамі яны засталіся на акупіраванай тэрыторыі. Не хапала ежы, адольвалі хваробы, многія, на жаль, памералі. З 1943 года ў Сёмкаўскім прытулку немцы пачалі браць у дзяцей кроў для сваіх параненых салдат.

— Дарэчы, акупанты адкрылі на тэрыторыі нашай краіны сем дзіцячых дамоў, дзе ўтрымлівалі хлопчыкаў і дзяўчынак ад 6 да 12 гадоў, каб браць у іх кроў, — падкрэсліў падчас прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў СМІ старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Рэспубліканскага грамадскага савета па маральнасці Мікалай Чаргінец. — У лютым 1944-га кіраўніцтва брыгады «Штурмавая» атрымала звесткі пра тое, што загадам з Берліна ўвесь сёмкаўскі прытулак будзе знішчаны.

Партызаны прынялі рашэнне вызваліць дзяцей і аддаць на выхаванне ў сем'і вяскоўцаў. Бліскучая аперацыя была праведзена ў ноч з 13 на 14 лютага. Як яна праходзіла, распавяла Марыя Фёдарава, былая разведчыца, удава камісара партызанскай брыгады «Штурмавая» Ільі Фёдарава.

Споўнілася 70 гадоў з дня выратавання 274 маленькіх насельнікаў Сёмкаўскага прытулку. Усе яны выжылі. На сустрэчу з журналістамі прыехалі былыя вязні Вера Адамовіч і Ніна Кабанава, былыя партызанскія сувязныя Клаўдзія Абражэвіч і Еўфрасіння Базылева, якія са слязьмі на вачах распавядалі, што адбывалася тут падчас вайны. Раней пра гэтыя падзеі сведчыла і мемарыяльная дошка, адкрытая ў 1974 годзе. Але потым яна знікла... І вось дзякуючы намаганням Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына», Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускай праваслаўнай царквы ў Сёмкаве нарэшце памятную дошку аднавілі.


Фота Кастуся Дробава

Мікалай Чаргінец ускладае кветкі да мемарыяльнай дошкі.


Падчас ўрачыстага мітынгу.

У межах гэтага мерапрыемства прайшла прэзентацыя кнігі Мікалая Чаргінца «Аперацыя "Кроў"». «Пабываўшы ў Сёмкаве і пачуўшы гісторыю выратавання дзяцей, я адразу ўспомніў усё тое, што перажыў малым у акупіраваным Мінску, бо, як вядома, дзіцячая памяць вельмі ўчэпістая, — расказаў аўтар выдання. — Мая кніга прысвечана ўсім дзецям, якія загінулі ў вайну, і не толькі ў Беларусі».

Як зазначыў старшыня праўлення Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына», выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Грозаў, сёння ў гэтым памятным і старажытным месцы ўжо рэалізуецца праект па стварэнні Міжнароднага цэнтра сям'і «Сёмкава», музея гісторыі сям'і. Мяркуецца адкрыць і музей старажытнай беларускай кнігі.

**Раіса МАРЧУК**

# Паэзія — найлепшая дыпламатыя

Літаратурна-музычны вечар «У дыялогу культур», прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы, адбыўся ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. У гасцінным доме народнага Песняра сабраліся прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, акрэдытаванага ў Рэспубліцы Беларусь. Замежныя госці з 25 краін свету, кожная з якіх мае адметную і непаўторную мову, прачыталі вершы сваіх нацыянальных паэтаў і творы Янкі Купалы ў перакладах.

А што мы ўвогуле ведаем пра месца Купалы ў сусветным кантэксце?

Паэт вельмі любіў Вільню, вяртаўся туды пры кожнай нагодзе. Сімвалічна, што мерапрыемства ў Купалавым доме адбывалася ў зале, дзе экспануецца выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці першага нацыянальнага літоўскага паэта Крысціёнаса Данелайціса.

Што яднае лірыку беларускага класіка і англійскага паэта Джорджа Байрана? Яны лічацца аднымі з найвялікшых рамантыкаў у свеце. А вось да культуры Злучаных Штатаў Амерыкі Янка Купала праяўляў асаблівую цікаўнасць: захапляўся глыбінёй творчасці Тэадора Драйзера і талентам Эрнэста Хемінгуэя. Вершы знакамітага беларуса яшчэ пры жыцці перасягнулі Атлантычны акіян. Першы помнік Янку Купалу за межамі роднай краіны з'явіўся менавіта ў ЗША, у Араў-парку (штат Нью-Джэрсі) у 1973 годзе. Імя Янкі Купалы ўжо 82 гады носіць бібліятэка ў бразільскім горадзе Порту-Алегры. Нездарма Беларусь мае цёплыя і сяброўскія стасункі з краінамі Лацінскай Амерыкі.

Цесна звязаны імёны Янкі Купалы і Яна Райніса ў латышскай і беларускай літаратуры. Абодва паэты — сімвалы сваіх нацый. Выстаўка з фондаў Музея Райніса і Аспазіі экспанавалася ў музеі Янкі Купалы напрыканцы 2013 года пры актыўным удзеле Пасольства Латвіі ў Беларусі.

Падобна Янку Купалу, вялікі в'етнамскі паэт Нгуен Зу ўдасканаліў літаратурную в'етнамскую мову, а першы эстонскі паэт Хрысціян Яак Петарсан у сваіх вершах заўсёды выкарыстоўваў мову народных песень і аддана верыў у будучае эстонскай культуры.

У жніўні 2011 года пасол Рэспублікі Куба Альфрэда Ньевес Партуонда наведаў Вязынку, радзіму Янкі Купалы. Падчас гэтага візіту вершы патрыёта і ўлюбёнца Беларусі прагучалі па-іспанску, а ў кнізе водгукаў з'явіўся запіс: «Для ўсіх кубінцаў гэта мясціна, дзе захоўваецца душа беларускай паэзіі і душа беларускага народа».

Янка Купала заўсёды адчуваў роднасць паэтычных традыцый беларускага і ўкраінскага народаў, успрымаў украінцаў як братоў. Неаднойчы ён выступаў і як перакладчык з рускай мовы, звяртаўся да творчасці Івана Крылова, Мікалая Някрасава, Аляксандра Пушкіна. У Расіі і сёння захоўваецца ўдзячная памяць пра беларускага Песняра. У Татарстане, у пасёлку Пячышчы, прымае наведвальнікаў кватэра-музей паэта. У 2006-м на Кутузаўскім праспекце ў Маскве з'явіўся помнік Янку Купалу работы беларускіх скульптараў Льва і Сяргея Гумілеўскіх. Між іншым, пераклаў беларускі паэт яшчэ і «залатыя злітак» з індыйскай культурнай скарбніцы — легенду «Паляўнічы і пара галубкоў», якая ўваходзіць у неверагодна маштабны эпас народаў Індыі «Махабхарата».

У 2013 годзе музей Янкі Купалы ўзяў удзел ва ўрачыстым адкрыцці Дзён беларускай культуры ў Рэспубліцы Фінляндыя. Менавіта там упершыню прагучаў верш Янкі Купалы пра знакаміты фінскі вадаспад «Над Іматрай» на беларускай і фінскай мовах у перакладзе паэта Тойво Тупіна.

Што да культуры Італіі, старажытнай як свет, то вядома: выбітная форма паэтычнага стылю пад назвай «санет» была ўведзена знакамітым італьянскім паэтам Петраркам. Сімвалічна, што на Беларусі першым да санетапісання звярнуўся менавіта Янка Купала.

Літаратурна музычны вечар дазволіў добра засвоіць, што мова народа — гэта яго душа, жывая памяць, скарбніца звычаяў і традыцый, якія перадаюцца з глыбіні стагоддзяў кожнаму новаму пакаленню.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Пілую вершам краты»

Вечар памяці Валянціна Таўлая «Паходный сэрца палымнела», прысвечаны 100-годдзю з дня яго нараджэння, адбыўся ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага. Арганізатарамі выступілі супрацоўнікі бібліятэкі і члены Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ.

У імпрэзе ўзялі ўдзел прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, літаратуразнаўца, пісьменнік Аляксей Пяткевіч, супрацоўнік літаратурнага аддзела Лідскага гісторыка-мастацкага музея Алесь Хітрун, пісьменніца Наталля Гарбачова і іншыя. Сапраўдным сюрпрызам для прысутных стала знаёмства з праўнучкай В. Таўлая Наталляй Несцярук, якая прыехала з Баранавіч.

Шмат было моладзі, неабыякавай да літаратуры, у першую чаргу, студэнтаў філалагічнага факультэта ГрДУ, якія па-новаму ўбачылі асобу паэта-змагара, даведаліся, як ушаноўваецца памяць Валянціна Таўлая ў Беларусі.

Шмат твораў паэта пазначана так: Гродна, астрог, 1929 год. Менавіта ў гарадзенскіх засценках напісаны вершы «Аддайце мне волю», «Скаваны бунтар», «Апошняе слова». Хораша і трапна сказаў наконт творчасці Валянціна Таўлая Мікола Арочка: «"Пілую вершам краты" — у гэтай магутнай таўлаеўскай метафары сканцэнтраваўся ўвесь воблік паэта-рэвалюцыянера, яго жыццёва-эстэтычная пазіцыя, стыль работы, у іх творча адбілася і знайшла свой далейшы наватарскі працяг адна з вядучых традыцый рэвалюцыйнай паэзіі».

Валянцін Таўлай не паспеў зрабіць і невялікай часткі з таго, што хацеў і мог. Але і тое, што засталося нам у спадчыну, увайшло ў лік лепшых узораў беларускай грамадзянскай лірыкі.

Удзячныя сучаснікі шануюць паэта. Яго імем названы вуліцы ў Гродне і Лідзе, дзе ёсць дом, у якім створаны музейны пакой Валянціна Таўлая. Бібліятэкі ў Баранавічах і Лідзе носяць яго імя. У Баранавіцкай школе імя В. Таўлая таксама працуе музей, прысвечаны яго жыццю і творчасці.

**Людміла КЕБІЧ**

# Смяёмся разам!

У Доме Дружбы адбыўся вечар беларуска-малдаўскага гумару, прысвечаны часопісам «Вожык» і «Кіперуш».

«Вожык» — старэйшае беларускае літаратурна-мастацкае выданне, адзінае ў галіне сатыры і гумару. Гісторыя «Вожыка» вельмі цікавая. Першы нумар часопіса выйшаў у 1941 годзе. У той час ён яшчэ не быў тым яркім, маляўнічым выданнем, якое мы бачым сёння. Гэта быў баявы агітплакат пад назвай «Раздавім фашысцкую гадзіну». Выданне змяшчала карыкатуры, фельетоны і памфлеты, якія высмейвалі акупантаў, заклікалі да барацьбы з ворагам. А ўжо ў пасляваенныя гады часопіс стаў выходзіць як сатырычнае выданне «Вожык».

У 1958 годзе ў Малдове выйшаў «брат» «Вожыка» — гумарыстычны часопіс «Кіперуш», што ў перакладзе з малдаўскай азначае «перчык». Выданне было надзвычай папулярным не толькі ў Малдове, але і за яе межамі, аб'яднала вакол сабе лепшых сатырыкаў, гумарыстаў, карыкатурыстаў. На жаль, з 1996 года часопіс выходзіць перастаў. Але яго дагэтуль памятаюць.

Шаноўным госцем вечара стаў Васіль Семянюк. Чытачы «Вожыка» пазнаёміліся з творчасцю гэтага адметнага аўтара дзякуючы рубрыцы «Народныя таленты». Нарадзіўся Васіль Міхайлавіч у Малдове, а ў нашу краіну пераехаў дваццаць гадоў таму. Беларусь лічыць другой радзімай і таму вельмі цікавіцца яе гісторыяй, нават засвоіў беларускую мову. Васіль Міхайлавіч не толькі піша выдатныя вершы і гумарэскі, але і малюе, а таксама спявае ў ансамблі народнай песні «Баравічанка». Госці імпрэзы атрымалі асалоду ад



Фота Кастуся Дробава

Выступае «Баравічанка».

выступлення гэтага цудоўнага калектыву.

Праграма вечара атрымалася вельмі насычанай і разнастайнай. Гучалі песні, вершы і, вядома, жарты. Былі нават танцы. Госці ўбачылі цудоўнае выступленне танцавальнага дуэта «Прыецения», лаўрэата і ўдзельніка шматлікіх конкурсаў.

На вечары абмяркоўвалі адметнасці беларускага і малдаўскага гумару. Беларусы, напрыклад, заўсёды любілі пажартаваць і пасмяяцца, у тым ліку з сябе. Аб'ектам жартаў у нас заўжды былі гультаі.

Малдаване ж, наогул, заўзятыя весялуны! Жарты і смех дапамагаюць ім пераадолець любыя цяжкасці. Гумар нават можна лічыць іх нацыянальнай рысай.

Наколькі блізкія Беларусь і Малдова? Малдаване, як высветлілася, вельмі падобныя да беларусаў: таксама гасцінныя, ветлівыя і вясёлыя!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Масленіца…

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае ў нядзелю на Масленіцу — адно з самых цікавых свят народнага календара.

Традыцыйным масленічным стравам — блінам і аладкам, сыру і маслу — заўсёды надаваўся магічны сэнс: яны (як і ўсе круглыя прадметы) дапамагалі сонцу хутчэй рухацца, паскаралі надыход вясны. А сыр і масла спрыялі таму, каб увесь год быў сытны.

Сёлета «музейная вёска» сустрэне наведвальнікаў цікавай праграмай. Упершыню падчас свята адбудзецца дэманстрацыя традыцыйнага абрада гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна «Паазер'е» «Пахаванне бабы». Пройдзе майстар-клас па беларускай польцы. Можна будзе наведаць унікальную выстаўку прылад (са збору музея) для вырабу масленічных страў — сыра і масла. Для тых сямей, якія ўступілі ў шлюб летась (вам спатрэбіцца копія адпаведнага пасведчання), супрацоўнікі музея падрыхтавалі цікавае «Ушанаванне маладых пар» з вясёлымі іспытамі, гульнямі і сувенірамі.

Можна будзе паўдзельнічаць ва ўжо традыцыйным конкурсе «Масленічная лялька» (параможцаў чакаюць прызы!), гульнях і забавах каля масленічнага слупа. Канцэртную праграму прадставяць народны ансамбль народнай песні «Асалода», ансамбль народнай музыкі «Медуніца», ансамбль народнай песні «Славянскі настрой», творчыя калектывы «Становчы настрой» і «Майстэрня ўражанняў». Кульмінацыяй свята стане спальванне пудзіла зімы і фаер-шоу.

**Міра ІЎКОВІЧ**



# Без другаснасці

Малады беларускі паэт Рагнед Малахоўскі прэзентаваў падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу кнігу «Жыві!» выдавецтва «Чатыры чвэрці».

Да гэтага былі зборнікі «Бережніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012). Акрамя таго што Рагнед — вядучы спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення СПБ, ён вучыцца ў Акадэміі кіравання, займаецца фотамастацтвам, піша музыку...

— Да кнігі «Жыві!» я ішоў амаль дзесяць год, — распавёў паэт падчас прэзентацыі. — У мяне ўжо ёсць два зборнікі вершаў, але менавіта ў «Жыві!» сканцэнтраваліся любімыя творы, якія і зрабілі гэту кнігу самай каштоўнай. Назва зборніка ўзятая з верша, прысвечанага Віталю Скалабану. Тут ёсць нешта сімвалічнае з жыццём і творчасцю кожнага — хай жывуць! Я сам з Нарачы, таму мноства вершаў прысвяціў гэтаму цудоўнаму кутку беларускай зямлі. Па тэматыцы творы таксама розныя: пачынаецца зборнік з тэмы кахання, пасля — Нарач, Радзіма, тэма паэта і паэзіі, — пад канец — больш філасофская лірыка. Напэўна, самым значным для мяне з'яўляецца верш, прысвечаны малой радзіме, Нарачанскаму краю: «Жамчужына ў бурштынавай аправе».

Нягледзячы на тое, што Р. Малахоўскі яшчэ даволі малады паэт, вядомыя беларускія дзеячы даюць станоўчыя водгукі яго творчасці. У прыватнасці, Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук, адзначыў: «У творах Рагнеда Малахоўскага, вельмі сучасных па форме і асацыятыўнасці і адначасова заглыбленых у беларускі фалькор, ёсць непадобнасць да іншых паэтаў і няма аніякага «гена другаснасці».

Р. Малахоўскі — беларускі паэт, які вызначыў свой шлях як шлях прапаганды роднага слова і роднай культуры.

**Таццяна ШЫМУК**

Літаратурную творчасць Расціслаў Бензярук пачаў як цікавы дзіцячы празаік. Піша таксама «дарослую» прозу і вершы. У гэтыя дні творца адзначае свой 70-гадовы юбілей. Жыве ў горадзе Жабінка, на Берасцейшчыне, аўтар многіх арыгінальных кніг для юнацтва.

Расціслаў БЕНЗЯРУК



# З сямейнага альбома

## Бабуліна калыханка

*Мы без бацькі раслі.*
*Кожны дзень у рабоце матуля.*
*Як прыходзіла ўноч,*
*То валілася, бедная, з ног.*
*Вечарамі спявала бабуля*
*Свае «люлі-люлі»,*
*Каб сон пудкі ад нас*
*Уцячы за палеткі не мог:*
*— Люлі-люлі-люлі,*
*Прыляцелі гулі,*
*Селі на варотах*
*У чырвоных ботах,*
*Сталі сакатаці:*
*«Нам каго забраці?*
*Будзем забіраці,*
*Хто не хоча спаці!..» —*
*«Ежа вам ў карыце,*
*Дзетак не бярыце!*
*Буду калыхаць іх —*
*Будуць дзеткі спаці…»*
*Як даўно ўсё было!*
*Ты заплюшчыла стомлена вочы.*
*Над магілай тваёй*
*Ціха сыплецца з раніцы снег.*
*Калыханку спяваць,*
*Мусіць, будуць завеі да ночы.*
*Калі ласка, цішэй!*
*Хай бабуля мая адпачне.*

## Бацьку

*Сорак пяты год маёвым громам*
*Абвясціў шчасліва Перамогу.*
*Толькі ты не выбраўся дадому —*
*Не было каго сустрэць з дарогі.*

*Без узнагародаў і парадаў*
*Між салдат спачын знайшоў навечна…*
*З сынам мы прыехалі у Радам**
*Да цябе на першую сустрэчу.*

*На магілу надвячоркам росным*
*Мы паклалі свежых кветак жменьку.*
*— Тата, глянь, унук які дарослы,*
*А твой сын даўным-даўно сівенькі!..*

*Радам — горад у Польшчы.

## Актавы

**Светлай памяці маці маёй — салдацкай удавы**

**1.**

*Такі няўмольна-несуцешны лёс!*
*Як рана маладосць тваю скасілі:*
*На дваццаць пятым паштальён прынёс*
*Ліст пахавальны. Ты пагаласіла*
*І ўпрэглася адна ў сямейны воз,*
*Каб за дваіх. І дзе ўзяліся сілы!*
*Не брала шлюбу больш, занятая работай,*
*Каб дзеці зналі радасць, хлеб, пяшчоту!..*

**2.**

*Было куды вяртацца нам з дарог,*
*Дзе сустракалі, мама, неба просінь…*
*Ніхто цябе, матуля, не збярог:*
*Сіротамі адчулі ў тую восень,*
*Як на труну асыпаўся пясок, —*
*А пражыла ты пяцьдзясят і восем.*
*…Скажыце, з дапамогаю актавы*
*Ці мацярынскі лёс я з змог уславіць?..*

## Табе

**В. Б.**

*Ганю адчайна ад сябе*
*Благія думкі і пакуты.*
*Няўжо навекі я прыкуты,*
*Бы ланцугамі, да цябе?*

*Няўжо такая ты адна*
*І я кахаць бясконца мушу*
*Твае, як канфеці, вяснушкі,*
*Што дорыць шчодрая вясна?*

*Ганю адчайна ад сябе*
*Благія думкі і нягоды…*
*Не выберу павек свабоды,*
*Якая будзе без цябе!*

## Сталі маладыя на ручнік

*Трыялет*

**Наталлі і Сяргею Бабровым**

*Сталі маладыя на ручнік,*
*Пакляліся родным, блізкім, Богу*
*Век дзяліць і радасць, і трывогу.*
*Сталі маладыя на ручнік,*
*Каб запомніць урачысты міг*
*І далей ісці адной дарогай…*
*Сталі маладыя на ручнік,*
*Пакляліся родным, блізкім, Богу.*



Фота Кастуся Дробава

Алесь КАРАНЕЎСКІ



***

*Глядзім мімаволі наперад,*
*Дзе лёт мітусні і турбот,*
*За што і як лепей —*
*з намерам*
*Вярнуцца ў былое праз год...*

*А сёння такое —*
*навошта?*
*Хутчэй з яго,*
*лепшае — тут!*
*Твая электронная пошта —*
*Кірунак у радасны цуд.*

*А побач цудоўнае бачыць!*
*Вось снег і нябёс цішыня!..*
*У вечнасць душы тваёй праца*
*Вядзе з новым подыхам дня.*

***

*Снег лёг…*
*Як быццам тут былі*
*Сумётаў горы на зямлі,*
*Сузор'е веццяў ў зледзяненні,*
*Дзе верхам белае з'яўленне*
*І неба палевая лань,*
*І гэты ўзлёт, і гэта рань.*

*Снег лёг…*
*Як быццам даўніна,*
*Тых дзён пякучая струна*
*Заціхла раптам, і прапала,*
*І дзесьці ў жоўтым сне сканала,*
*І хоча светлая зіма*
*Мой сум і горычы стрымаць.*

*Снег лётае,*
*і з ім сышло*
*Маё абсяжнае свято,*
*Дзе грэла палкае трымценне,*
*Палон тых воч і веяў мленне…*

*Два сэрцы*
*ў кошыках душы,*
*Як тыя зерні-спарышы,*
*Імкнуцца марна да цяпла…*
*Віна зімовою была —*
*Не адагрэць яе сляды,*
*Дзе вее сноў бялёсы дым.*

*Снег лёг на еднасці масты,*
*Дзе ён,*
*дзе ўсё,*
*дзе я,*
*дзе ты...*

## Дажджы і Мінск

*Дажджы і Мінск —*
*цудоўнае сугучча*
*У ранішні туман ля мокрых сцен,*
*І лес маркотны, соннае Уручча,*
*Разброд дамоў —*
*як стыльны габелен.*

*І гэта мудрагельная заслона*
*Камусьці ў вочы лезе ці пад бок,*
*А мне з'яўленне сумнага палону —*
*Як водару гаючага глыток.*

*Туманны хлопчык і жывая Свіслач —*
*Маё дзяцінства...*
*Колькі доўгіх год...*
*Ад роднай Краснай вуліцы на міласць*
*У родным парку зноў раблю абход:*

*Дзе дрэў прывіды і масты лунаюць*
*І чайка кажаном ляціць у зман,*
*А ўслед шары з альтанкаю ступаюць,*
*Дзе ўсё знаёмае, бы той туман.*

*Чароўны Мінск!..*
*І неяк ясна, лёгка,*
*Як быццам ты адзін, і гэты свет,*
*І ўсё былое дзесьці недалёка*
*Табе з усмешкай пазірае ўслед.*

*На просты водгук той любові іншай,*
*Да горада, які з руін узрос,*
*Дзе дом, і мама, і лагода цішы,*
*Дзе лёгкі ўздых мой...*
*і таемнасць слёз.*

Лёля БАГДАНОВІЧ



## Не спіцца...

*Месяц завушніцай*
*Зззяе над сялом.*
*Зорачкам не спіцца —*
*Светла за акном.*

*Клён стары з самотай*
*Апусціў галлё.*
*Шэпчацца ля плота*
*З ветрам бадыллё.*

*Заначуе казка*
*У бяздонным сне,*
*Мамінаю ласкай*
*Прыйдзе да мяне.*

*Я заплюшчу вочы,*
*Патушу святло*
*Ды прылягу моўчкі*
*Пад яе крыло...*

## Непастаянная зіма

*Напэўна, закахалася зіма —*
*Забылася таму пра ўсё на свеце.*
*Пра снег дык нават гутаркі няма,*
*Пяшчотай дыхае гарэза-вецер.*

*Не ведаем, чаго яшчэ чакаць,*
*У новы год цвілі пралескай мроі.*
*Каму аднойчы выпала кахаць,*
*Той разумее, што гэта такое!*

*А мы не супраць — цешыцца няхай,*
*Калі каханне ў вочы зазірнула.*
*Абы дастойнага спаткала жаніха*
*І ў тых вачах навекі патанула!..*

## Мроі чакання...

*Мы не сустрэліся з табою...*
*Бягуць імгненні і гады,*
*А я лаўлю за крылы мрою,*
*Лячу з тых дзён у нікуды.*

*Усё чакаю наша заўтра,*
*Калі ты ў вочы зазірнеш.*
*Мой лёс са мною ладзіць жарты,*
*А ты чамусьці не ідзеш...*

## Вандроўніца

*Сяджу ў халоднай электрычцы.*
*Вандроўніца —*
*не супыніць!*
*Ніколі я не здраджу звычцы,*
*Пакуль хачу з сябрамі жыць:*

*Куды завуць —*
*бягу і еду,*
*Каб пачытаць і паспяваць,*
*Падсаладзіць з людзьмі бяседу,*
*Сваёй пяшчоты кроплю даць.*

## Пакліч

*Замілавана ў вочы пазіраю,*
*Твой кожны рух напружана лаўлю.*
*А ўсё таму, што я цябе кахаю,*
*Таму, што па-сапраўднаму люблю.*

*Пайду я за табою на край свету,*
*Ты толькі азірніся і пакліч.*
*Аднойчы прынясі ў далонях лета,*
*Свае пяшчоты кропельку пазыч.*

*З табой сустрэну зорны час і ранак,*
*Нікому сваю ўсмешку не аддам.*
*Ты толькі пазаві мяне, каханы,*
*Пайду я ўслед насуперак гадам!*



Павел САКОВІЧ

# Выпадковы спадарожнік

## *Апавяданне*

Зімой я езджу на дачу. Жыву тут па некалькі дзён, хаця ніякага камфорту — нават печкі — няма. Замест печкі паставіў звычайны электраабагравальнік. Праўда, даводзіцца апранаць на ноч па два спартыўныя касцюмы, накрывацца некалькімі коўдрамі, а на галаву нацягваць вязаную шапачку, а то і аблавушку.

Спытаеце, навошта я ўсё гэта цярплю? Галоўным чынам дзеля нічыйных дачных сабак: Шарыка і Найды. Яны калісьці жылі ў будцы стоража і навучыліся пазнаваць сваіх дачнікаў і чужых людзей, не пускалі на сваю тэрыторыю скаціну і бадзяжных сабак. Летам ім было добра — падкармлівалі дачнікі, асабліва дзеці, а ўвосень людзі з'язджалі. Зімой, калі дачныя завулкі да пояса заносіла снегам, рэдка хто адважваўся прыехаць, каб узяць нешта з агародных прыпасаў. Я ж чамусьці адчуваў сябе адказным за гэтых сабак. Дамок наш стаяў блізка ад варотаў, і Шарык з Найдай былі заўсёды навідавоку. Яны часцяком прыходзілі да нас і спачывалі дзе-небудзь на ўчастку.

Шарык, аднак, хутка старэў. Ён быў кімсьці пакалечаны ці жорстка збіты яшчэ да з'яўлення на дачах. На яго ным шырокім ілбе не зарасталі шнары. Шарык пастаянна накульгваў на пярэднюю лапу, а калі мы выходзілі за вароты гуляць, заўсёды адставаў ад нас з Найдай, і мы чакалі яго, давалі яму адпачыць. Найда, мілая віславухая істота з доўгай поўсцю і пушыстым хвастом, за які чапляліся розныя калючкі, была вернай сяброўкай Шарыка. Яны і з жыцця пайшлі амаль што разам: ранняй восенню, з розніцай у два-тры тыдні.

У той дзень я корпаўся ў двары, а Шарык ляжаў насупраць дома на вуліцы і грэўся на патрэсканым, разбітым асфальце. Раптам ля цэнтральных варотаў забрахаў чужы сабака. Шарык гаўкнуў сіплым голасам, падняўся і, кульгаючы, пайшоў у той бок. Неўзабаве пачулася глухое злоснае гырканне, а потым сярдзіты мужчынскі выкрык.

Шарык вярнуўся на дрыжачых лапах, скура на спіне і баках падрывала, нібы ад укусаў аваднёў. Сабака лёг і, павярнуўшы галаву, стараўся дастаць языком да хрыбта. Гэта ніяк не ўдавалася, бо шыя амаль не згіналася. Я падышоў да яго і жахнуўся: на спіне і баку былі глыбокія рваныя раны. На цёмна-бурай поўсці кроў была амаль незаўважнай, але кроплямі сцякала на зямлю. Я пайшоў у хату, адшукаў бутэлечку з ёдам, захапіў некалькі лейкапластыраў. Шарык, не скуголячы, цярпеў боль, пакуль я прамываў раны, а потым заклейваў пластырам. Ён адмовіўся ад яды і застаўся начаваць на маім агародзе. Раніцой мне расказалі, што адбылося каля варотаў.

Нейкі п'янаваты мужчына з аўчаркай завітаў на дачы, каб адшукаць знаёмца. Пакуль ён распытваў стоража, сабака бегаў па тэрыторыі. Гэта заўважыў Шарык і пачаў брэхам выганяць чужака, а той раз'юшана напаў на яго. Хоць Шарык быў слабейшы, ён не збег, падцяўшы хвост, а змагаўся, колькі хапіла сіл. Гаспадар аўчаркі назіраў за няроўным паядынкам з непрыхаваным задавальненнем, а вартаўнік — тутэйшы вясковец — проста пабаяўся ўмешвацца...

Неўзабаве мне пазванілі з дому, і я вярнуўся ў Мінск па тэрміновай справе. Калі зноў прыехаў на дачу, Шарыка ўжо не было. Суседка сказала, што раніцай яго знайшлі нежывога каля вартоўні. Аслабелы, ён усё ж такі прыпоўз сюды, да варотаў, з надзеяй, што яму дапамогуць. Найда, кажуць, сядзела побач і выла. Стораж, як заўсёды, спаў і «нічога не чуў, нічога не бачыў». Так Шарык ціха сканаў на сваім пасту. Дзве жаласлівыя жанчыны прыйшлі з рыдлёўкамі і пахавалі яго за варотамі. А менш чым праз месяц на маім агародзе сканала ад нейкай хваробы Найда. Памірала яна ў пакутах, скуголіла ад болю, поўзала па зямлі. Жанчыны плакалі, падносілі Найдзе ваду, але яна не піла і толькі змучанымі паўзаплюшчанымі вачыма глядзела на людзей... Пахавалі яе побач з Шарыкам, з якім яна пражыла некалькі гадоў. Праўда, шчанюкоў у яе не было. Відаць, з-за той жа хваробы.

Я зноў прыехаў на дачу, калі трывала лёг снег. На душы было адзінока. Я чысціў дарожкі, і мне здавалася, што вось-вось з'явіцца адкекуль Шарык з Найдай, пачнуць лашчыцца, вішчаць ад радасці і віляць хвастамі... Надвячоркам я вырашыў прайсціся па дарозе да бліжэйшай вёскі, а потым, можа, да самых аддаленых дач. Сонца ўжо марудна садзілася недзе за лесам, нібы шукаючы месца для начлегу. Перад выхадам паклаў у кішэню курткі пакет з-пад малака з кавалкамі крывянкі для бадзяжных катоў і сабак. За дачнымі варотамі гляну ў на дарогу каля станцыі і заўважыў нейкага мужчыну з даволі вялікім сабакам, які трымаўся ззаду.

Я, аднак, збіраўся ў супрацьлеглы бок — да вёскі. Туды і пакіраваў. Азірнуўшыся праз нейкі час, заўважыў толькі сабаку. Магчыма, мужчына звярнуў на адну з дач, што стаялі каля дарогі, а сабака быў сам па сабе? Ён паступова наганяў мяне, але наблізіцца не рашаўся. Калі я спыняўся і паварочваўся да яго тварам, сабака таксама спыняўся і ўважліва сачыў за мной. Можа, спяшаўся некуды, але не рашаўся абагнаць мяне? Сапраўды, дарога паступова вузела, а паабапал высіліся пышныя сумёты. Тут я ўспомніў, што наперадзе ёсць развілка. Галоўная дарога ідзе на райцэнтр, а паваротка вядзе да вёскі і далей — да ўскрайку лесу, за якім, на пагорку — дачны пасёлак. Я зрабіў крокаў дзесяць па дарозе, вызваліўшы для сабакі паваротку. Ён дайшоў да яе і раптам сеў, запытальна пазіраючы на мяне. У сваю чаргу, я з цікавасцю разглядваў сабаку. У ім, напэўна, была намяшана патроху ад розных парод. Выглядаў ён даволі нязграбна. Шырока расстаўленыя, крыху вывернутыя пярэднія лапы, вялікі лоб з паўстаячымі вушамі. Сабака быў незвычайнай масці. Такое ўражанне, што яго «размалёўваў» нейкі абстракцыяніст альбо юны мастак, якому хацелася перабраць усе фарбы. Пад самотнымі і добрымі вачамі, нібы кроплі слязінак, застылі дзве круглыя рыжыя плямкі. Сабачая морда чымсьці нагадвала твар клоўна і міжволі выклікала ўсмешку. Мне здалося, што я ўжо бачыў недзе такога ж сабаку. Можа, не зусім такой «расфарбоўкі», затое гэткай жа эклектычнай пароды.

Не кранаючыся з месца, мы з сабакам нейкі час абменьваліся цікаўнымі добразычлівымі позіркамі. Тут я ўспомніў пра крывянку, дастаў з кішэні кавалак і падкінуў яму пад самыя лапы.

— На, падсілкуйся, калі галодны. Можа, табе яшчэ бегчы і бегчы?

Сабака, седзячы, нахіліўся да каўбасы, панюхаў і спакойна, не спяшаючыся, пачаў есці.

«Э, не галодны, — падумаў я. — Няўжо яго так накармілі на станцыі?»

Я ў гэта не дужа верыў, хоць і ведаў, што на станцыі штодня збіраюцца бадзяжныя каты, сабакі, каб выпрасіць у пасажыраў што-небудзь паесці. Аднак у будзень, як і сёння, ды яшчэ зімой, дачнікаў прыязджае мала.

Сабака даеў крывянку і пачаў азірацца па баках, нібы хацеў сарыентавацца. Не дачакаўшыся, якую выбера ён дарогу, я пайшоў паваротках у напрамку вёскі і далей. Мінуўшы крайнія дамы, азірнуўся. Сабака плёўся за мной, толькі ўжо на больш кароткай адлегласці. Значыць, не адсюль ён, не з гэтай вёскі... Падыходзячы да краю лесу, я зноў пагледзеў назад. Сабака ішоў следам, нібы жадаючы абагнаць мяне. Дарога тут была яшчэ вузейшай, і ён, відаць, ніяк не мог адважыцца праслізнуць у мяне каля ног. Я саступіў на абочыну, у даволі глыбокі снег, і махнуў рукой:

— Ну давай, абганяй!

Сабака зразумеў, хутка праскочыў некалькі метраў, а потым лёгкім трушком пабег па дарозе. Адчувалася, ён ведае, куды бяжыць.

Я паскорыў хаду, каб не губляць яго з поля зроку. За чарговым паваротам сабака некуды знік, але на дарозе там-сям былі бачныя сляды. Яны і прывялі мяне ў рэшце рэшт да аддаленых дач, да якіх мы прыходзілі з суседам падчас прагулак. У першым ад варотаў доме пастаянна жыла жанчына. Асеннім ці зімовым надвячоркам ад святла яе акенца нам рабілася цяплей, утульней на душы. Аднойчы яна расказала, што пераехала сюды жыць, каб не замінаць сям'і сына. Мужа ў яе няма — даўно памёр. Сын прывозіць яду, коле дровы для печы. Раз на тыдзень і яна ездзіць у Мінск, разгавецца ў ванне, пабачыць унукаў. Здароўе, праўда, няважнае, дык сын даў мабільнік для сувязі. А яшчэ прыбіўся да яе нейкі сабака, і ёй цяпер не так адзінока.

Нарэшце я ўбачыў дом той самай жанчыны. Да яго вялі выразныя сляды — чалавечыя і сабачыя. Ганак і сцежка да веснiц былі расчышчаны ад снегу. Я падумаў, што гаспадыня дома, і пачаў праходжвацца ўздоўж агароджы, пазіраючы на вокны хаты. Раптам за домам забрахаў сабака. Рыпнулі дзверы. На ганак выйшаў мужчына і рушыў у мой бок. За ім, зрэдку пабрэхваючы, ішоў сабака. Гэта быў мой спадарожнік. Мужчына спыніўся ля весніц і не вельмі ветліва спытаў:

— Што вам трэба?

Я крыху разгубіўся і ў сваю чаргу запытаў:

— Скажыце, тут жыве Ганна... — я не мог успомніць імя па бацьку жанчыны і няўпэўнена дадаў: — Пятроўна?

Мужчына ўважліва паглядзеў на мяне і ўжо больш лагодна адказаў:

— Няма Ганны Пятроўны.

— Што, з'ехала? Назусім? — не зразумеў я адказ мужчыны.

— Можна і так сказаць... — апусціўшы галаву, пацвердзіў ён. — Памерла яна. Прыехала на выхадныя ў горад і раптам — інфаркт.

— Прабачце, — збянтэжана прамовіў я. — Прыміце маё спачуванне. — І, крыху памаўчаўшы, неяк недарэчна спытаў: — Цяпер тут вы... пасяліліся?

Мужчына паглядзеў на мяне, на сабаку, які стаў паміж намі, нібы прыслухоўваючыся да размовы. Мне падалося, што ён разумеў, пра каго мы вядзём гаворку. Калі нехта з нас называў імя гаспадыні, сабака пачынаў азірацца і ціха скуголіць.

— Не, жыць тут я не магу, — адказаў мужчына. — Мне да пенсіі два гады працаваць. А сюды я прыязджаў у свой адпачынак, летам. Цяпер наведваюся па выхадных. Во, дзеля яго, — ён кіўнуў на сабаку. — Маці перад смерцю прасіла. Ён любіў яе. Часта аж да электрычкі праводзіў, а пасля сустракаць бегаў...

Мужчына нахіліўся над сабакам, пагладзіў па галаве.

— Ён і цяпер бегае... — голас мужчыны памякчэў. — Калі прыязджаю, глядзіць мне ў вочы, а потым бяжыць на станцыю.

Я таксама нахіліўся да сабакі, правёў далонню па спіне, спытаў:

— А як жа ён адзін цэлы тыдзень?

— Нічога, прывык ужо... Нядаўна ўцяпліў яму будку. На ланцуг не бяру, каб мог пабегаць, а ежу пакідаю ў схованцы, за будкай. Ён ведае, дзе. Ну, а ў суботу і нядзелю я тут. Палю печку, згатую гарачае... Сабе і яму.

Сабака неяк па-сіроцку прытуліўся да нагі мужчыны, і той, пацерабіўшы яму вуха, з уздыхам дадаў:

— Схуднеў... Ды гэта не ад голаду. Па гаспадыні сумуе.

Я таксама распавёў, як пазнаёміўся з Ганнай Пятроўнай, як сустрэўся з сабакам і пайшоў за ім. Пад канец размовы паабяцаў:

— Цяпер і я пра яго паклапачуся. Як прыеду, прагуляюся і прынясу што-небудзь. Мне гэта ў радасць будзе. Я вольны пенсіянер, магу і часцей прыязджаць. Так што пабачымся!

На развітанне кіўнуў галавой і хацеў пайсці, як раптам успомніў:

— Прабачце, пагаварылі, ды так і не пазнаёміліся. Я Генадзь, а вас як завуць? — Я счакаў крыху і дадаў: — І сабаку...

Шчыра кажучы, мяне больш цікавіла клічка сабакі. З гаспадаром наўрад ці будзем мы часта бачыцца, а вось сабаку кожны раз давядзецца клікаць.

Па твары мужчыны слізганула ўсмешка, і ён коратка прадставіўся:

— Я Ігар, а гэта, — ён паказаў на сабаку, — Шарык.

— Шарык? — чамусьці перапытаў я.

— Шарык, — пацвердзіў Ігар. — Так маці яго назвала.

Нарэшце мы развіталіся, і я пайшоў. Па дарозе на языку ўсё муляла, як тая карамелька, гэта «круглая» клічка: Шарык. У мае дзіцячыя гады яна была вельмі распаўсюджанай. Тады па вуліцах бегалі дзясяткі Шарыкаў. Можа, у нас не хапала фантазіі, але гэтая простая клічка, здаецца, найбольш пасавала тым беспародным дваровым сабакам, якія днямі круціліся пад нагамі ў дзятвы, нібы шарыкі. Цяпер немагчыма ўявіць, каб нехта назваў сваю балонку ці колі Шарыкам. Затое сярод дварнякоў Шарыкаў па-ранейшаму многа. Вось як і тут, на дачах...

Нечакана я ўспомніў таго, свайго, Шарыка. Да мяне нарэшце дайшло, што гэты Шарык, жывы, маладзейшы, і той, што памёр, падобныя адзін да аднаго, як дзве кроплі вады. Ну, можа, не зусім як дзве кроплі, але якраз тыя жоўтыя кроплі-«слязінкі» пад сабачымі вачамі мне ў першую чаргу і прыгадаліся. А яшчэ ў іх былі аднолькава трохі вывернутыя і шырока расстаўленыя пярэднія лапы, высокія «разумныя» лбы, паўсагнутыя, як бы надломленыя, вушы...

«І што гэта ўсё азначае? — пачаў я меркаваць. — З аднаго вывадка яны быць не могуць. Мой выхаванец значна старэйшы за гэтага. Значыць... Значыць, мой Шарык — бацька гэтаму цуцыку? Я нават абрадаваўся нечаканаму адкрыццю: мой Шарык нібыта ажыў у новым абліччы. Мажліва, нейкая сабачая «краля» выпадкова забрыла ў пошуках любоўных прыгод на нашы дачы ці, наадварот, Шарык выпадкова сустрэў яе на прагулцы. І вось ён, вынік: такі сімпатычны нашчадак. Малайчына, Шарык! Здавалася, ціхоня, дамасед, а аказваецца, яшчэ той "хадок" быў!»

Цяпер мне не давядзецца сумаваць на глухой зімовай дарозе. Ад станцыі будзем разам брысці да занесеных снегам дач, дзе да асірацелай хаты прытулілася сабачая будка. Будзем ісці па-сяброўску побач і ўспамінаць пра добрае і балючае, сумнае і шчаслівае, што здарылася і ў мяне, і ў майго спадарожніка.

# Люстэрка пад вокладкай




Студзеньскі нумар «Полымя» спадабаецца аматарам практычна ўсіх жанраў. Эпічныя старонкі падпісаныя прозвішчамі Мікалая Чаргінца і Алеся Марціновіча, перакладчыка рамана «Аперацыя "Кроў"» на беларускую мову. Твор надзвычай надзённы, калі мець на ўвазе не толькі час яго з'яўлення (пярэдадзень 70-годдзя Вялікай Перамогі і вызвалення Беларусі), але і выхаваўчую якасць напаміну. Тэма гвалту (у дадзеным выпадку — распраў у мінскім гета) абвострана адзываецца і ў сучаснай свядомасці. Напісаны простай, лапідарнай мовай, пазбаўлены вышукаў кампазіцыі, раман мусіць успрымацца прытчай і, адначасова, палымяным заклікам: чытайце, жахайцеся і — шануйце мірны час.

Пераклад на беларускую мае тут некалькі прынцыповых функцый. Папершае, узмацняе аўтэнтычнасць твора, паколькі размова ідзе пра старонкі з беларускай гісторыі. Па-другое — стварае прэцэдэнт: ваенная тэма — гісторыя агульная, таму вартая перакладу на як мага больш моў свету.

Драматургія прадстаўлена гумарыстычна-сатырычнай п'есай Георгія Марчука «Святы грэшнік», пародыяй на грамадства часоў «вясны капіталізму». Як і належыць драме, яна гранічна абагульняе норавы і тыпы, умоўна пазначае прастору («вялікі горад дзесьці паблізу»). Зачэпкай дзеі становіцца высакародны ўчынак Пятра Самасейкіна, які вяртае прадаўшчыцы памылкова прададзены яму лішні білет. Учынак выклікае цікавасць з боку стваральнікаў аднаго з дабрачынных фондаў, чыя місія — спрыяць даверу да ўлад у час татальнага недаверу. Між тым, пастаўлены на чале фонду Самасейкін не абмяжоўваецца «прадстаўніцтвам» і насамрэч пачынае «ствараць дабро». У выніку ён мусіць апынуцца «на вуліцы», а дакладней, у вёсцы, дзе зноў выпучаецца няхай незаўважнай, але высакароднасцю, — незнішчальнае самасейнае насенне, без якога не абыходзіцца ва ўсе часы, і ў «вясну капіталізму» таксама. «Вясна» набыла сёння больш ці менш цывілізаваныя абрысы, але не адышла ў нябыт. «Суб'ект» яе з іроніяй пазнае і практыку аднадзённых фірм-фондаў, і іх выкручасты персанал, і адметныя формы такога кшталту «карпаратыўных» узаемаадносін. Шлюбы па інтэрнэце, «гламурныя» роды (з мужам і/або ў басейне), існаванне ў сацыяльных сетках — гэтыя і іншыя, вычварэнскія і не вельмі, «трэнды-брэнды» часу месціць тэатралізаваны тэкст, роля і статус якога не змяніліся з часоў Сафокла: быць люстрам грамадства.

Прыхільнікі паэтычнага слова з задавальненнем прачытаюць падборку вершаў Юркі Голуба і міні-анталогію сербскіх майстроў, а таксама — другі артыкул з нататак Уладзіміра Гніламёдава пра сучасную беларускую паэзію. Гэтым разам яны датычаць рамантычнай (асобасна сканцэнтраванай) і публіцыстычнай («маральна і сацыяльна ангажаванай») плыняў. У кантэксце першай разглядаецца творчасць Н. Гілевіча, Н. Гальпяровіча, В. Шніпа, Т. Сівец, у рэчышчы другой — вершы А. Мануліка, М. Захаранкі, М. Мятліцкага. Як і ў першым артыкуле крытыка-акадэміка (№ 12, 2013), разам з канцэптуальным абрысам стану сучаснай паэзіі чытач знойдзе нямала трапных заўваг наконт унікальных рыс творчасці названых паэтаў. Нельга не працытаваць вызначэнне «сапраўднай паэзіі» — «…слова, звернутае да чалавека-сучасніка, якое адкрывае яму новае бачанне свету і самых сябе». Слова, якое нібы «да-стварае» Боскі свет.

Грамадская частка часопіса аддадзена артыкулам Міколы Мятліцкага (да 90-годдзя пісьменніка і выхавальніка моладзі Алеся Савіцкага), Аляксандра Кавалені і Васіля Ляўковіча (яны пішуць пра здабыткі фундаментальнай гуманітарнай навукі незалежнай Беларусі), Міколы Тамашэвіча — аб працоўных здабытках СВК «Азёры».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Што сказаў чытач




Гэтым разам агляд «Нёмана» стаў своеасаблівым эксперыментам: часопіс я чытала не адна. Побач быў чалавек, які любіць кнігі, і мне пастаянна даводзіцца дзяліць з ім настольную лямпу. Тым цікавей было пачуць яго меркаванне.

Пра паэзію. Найбольш сярод прапанаваных у нумары паэтычных твораў увагу прыцягваюць вершы Віктара Шніпа. Праўда, у майго «сучытанца» часам і яны выклікалі пытанні. Напрыклад, стварылася ўражанне, што паэт напісаў верш «Людміле» жартам альбо, як практыкавалася раней, для альбома, на доўгую памяць. Хаця, не буду спрачацца, пакладзены ў аснову верша вобраз прыгожы, але ўсур'ёз успрымаць твор усё адно не атрымліваецца.

Навум Гальпяровіч стварыў цудоўны партрэт Уладзіміра Марука. Усяго тры старонкі, пасля якіх захацелася пазнаёміцца і паціснуць руку спадара Уладзіміра за мужнасць быць сціплым у час, калі іншыя бяруць нахрапам. Шкада, гэта немагчыма. Але што да ўспамінаў, то мой напарнік упэўнены: такімі і павінны быць артыкулы пра пісьменнікаў — найперш чалавечнымі. Дарэчы, у тэксце спадара Навума няма ніводнага слова пра прэміі і колькасць кніг (чамусьці лічыцца, што чым іх больш, тым лепш). А галоўнае, хоць апавядальнік даволі часта гаворыць «я», яго асоба не выходзіць на першы план, не засланяе постаць таго, пра каго распавядаецца. Хацелася б, каб такіх шчырых сяброўскіх успамінаў было як мага больш.

Напэўна, многія лічаць, што проза мусіць быць абсалютна пазбаўлена паэзіі. Прынамсі, аўтары гэтага нумара «Нёмана». Але разам з тым уяўленне пра празаічнае не заўжды не спалучаецца з лаканічнасцю. У гэтым сэнсе пачатак рамана Жана Д'Армесона «Баль на пахаванні» вельмі адрозніваецца ад празаічных твораў нашых суайчыннікаў, прадстаўленых у чарговым «Нёмане». Адрозненне адразу кідаецца ў вочы: паўстаронкі французскага рамана — і ты ўсё ведаеш пра сябра галоўнага героя, бачыш гэтага чалавека, галоўнае — адчуваеш. Чытаем раман Веры Зелянко «Не памерці праз ісціну»: цягам дзвюх старонак герой валяецца ў гаражы з праломленай галавой, прыгэтым цябе абдае хваляй негатыву, якога, здаецца, у саміх словах няма, але ў агульным ім ажно патыхае ад тэксту. Штосьці падобнае — і ў «Двух аповедах» Ларысы Калужэнінай.

Адкуль такая любоў да шматслоўя? Можа быць, гэта наступства вымушанага маўчання для некаторых творцаў. А можа, звычайная няўважлівасць да слова. Калі да яго ставіцца не як да боскай матэрыі, тонкай, пяшчотнай, а як да гліны, то няма чаго і дзівіцца, што ў выніку атрымліваецца не цуд, а самы звычайны гаршчок. Ці варта казаць, што мой напарнік аддаў перавагу «Балю на пахаванні» Д'Армесона.

Напрыканцы згадаю, што «Нёман» пачынае сумесны праект з Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва: супрацоўнікі музея будуць распавядаць пра карціны з яго калекцыі. Першай стала праца Віктара Барабанцава «Светлы дзень», рэпрадукцыя якой змешчана на вокладцы першага за 2014 год «Нёмана».

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Дыялогі сучаснікаў




Першы нумар «Маладосці» атрымаўся выдатным. Гэта датычыць і паэзіі, і прозы, і іншых матэрыялаў часопіса. Вершы Мікіты Найдзёнава, Аляксея Арцёмава, Андрэя Козела — гэта сучасная беларуская паэзія, вольная ад палону літаратурных штампаў, традыцыйных вобразаў і ідэй. Адчуванне творчай свабоды вельмі важнае для кожнага аўтара, бо свабода — гэта пошук, натхненне і смеласць. Свет маладой паэзіі адкрыты іншым краінам і іншым культурам — «чарняве дзяўчо з Марока» збірае тут апельсіны, а ацтэкскі ваяр марна крочыць да Тэначтытлана, на адлегласці ў некалькі старонак, а часам нават у адным радку апынаюцца Глыбокае і Глазга, Мекка і Еўпаторыя.

«Выключнае значэнне часта атрымлівае параўнанне ў афарызмах і невялікіх лірычных вершах. Зразумела, што да такіх параўнанняў ставяцца асаблівa высокія запатрабаванні: яны павінны быць зусім новымі, арыгінальнымі і глыбокімі, што апраўдала б іх самастойнае існаванне», — пісаў Яўген Барычэўскі ў даследаванні «Параўнанне ў мастацкай літаратуры», заканчэнне якога змешчана ў гэтым нумары. Паэзія згаданых маладых аўтараў цалкам адпавядае гэтай умове, здаўна актуальнай для мастацкіх тропаў.

Вершы М. Найдзёнава заўсёды звернуты да іх галоўнай гераіні — вабнай, лёгкай, светлай, — якой можна пасміхнуцца паміж радкоў, штосьці перапытаць у яе ці нечакана прапанаваць пацалунак. Аўтар часта ўжывае недакладныя рыфмы (апорныя, усечаныя, асанансныя) — і ў выніку атрымлівае вясёлыя, няўрымслівыя вершы, якія пры патрабавальным стаўленні да сугучча слоў апынуліся б занадта правільнымі і акуратнымі.

А. Арцёмаў падаецца больш заглыбленым у сябе, задумлівым і крыху меланхалічным. Яго радок удвая даўжэйшы за радок М. Найдзёнава, ён аддае перавагу трохскладовым памерам — анапесту ды амфібрахію — і ў гэтай падборцы найперш разважае пра няспынны час. Самым запамінальным, магчыма, стане яго верш пра ўвасабленне адвечнай чалавечай мары: «Калі я памру, не трэба ні пекла, ні светлага раю: / Вы мне ў далонь укладзіце маленькае семечка грушы. / Яно прыжывецца ў глебе, праб'ецца хоць неяк цудам…»

А. Козел, відаць, больш падуладны нейкай агульнай паэтычнай плыні, дзе пад хваляй вобразаў часам губляецца асноўная мэта, ідэя выказвання, якая павінна вызначаць і структуру, і логіку развіцця твора. Гэтай плыні аўтар супрацьстаіць вольнымі вершамі, некаторыя з якіх нагадваюць пункціры А. Разанава, але маюць безумоўную ўласную каштоўнасць.

Апавяданні Дар'і Лёсавай — жаданне сказаць праўду пра нашу сучаснасць: «Божачка, няўжо Ты не бачыш, што свет, які ты стварыў некалі, патрабуе капітальнага рамонту?!» Ва ўсіх чатырох творах галоўныя гераіні — гэта хваравітая, нешчаслівая мама і дачка, якая любіць яе і шкадуе, з якой адбываецца штосьці, вартае быць агучаным, пераказаным, узгаданым, асэнсаваным. Апавяданні на тры чвэрці з'яўляюцца ўнутранымі маналогамі альбо дыялогамі, дзе героі скардзяцца, выказваюць свае погляды, дзеляцца ўспамінамі. Надта доўгія рэплікі могуць успрымацца ненатуральна, але пісьменніца мэтанакіравана пераборшвае, дазваляе персанажам выказвацца эмацыянальна, напоўніцу, не зважаючы на рэгламент, — і простая мова паўстае як мастацкі прыём. Добрыя, спагадлівыя, чыстыя гераіні не выклікаюць усмешкі, пісьменніца не дэманструе іх як прыклад, а разам з імі глядзіць на свет, думае, абураецца, перажывае.

Пасля інтэрв'ю пра палёт на Марс няблага чытаецца фантастычнае апавяданне Яна Далёкага, якое падаецца адной з частак касмаоперы, створанай паспяховым пісьменнікам Славамірам з аповесці «Прапаведнікі смерці» — але напісаным па-беларуску! Аўтару дапамагае ўсталяваны жанр і стыль, выдатная начытанасць. На добрым узроўні напісаны аповесці У. Мажылоўскага, А. Бычкоўскага і В. Данэйка, але пісьменнікі нібыта ўяўлялі сваімі чытачамі найперш падлеткаў, і таму творы атрымаліся больш простымі, чым магло быць. Варта не спыняцца на тым, што атрымліваецца, і ставіць усё больш складаныя і цікавыя мэты!

Насуперак А. Арцёмаву здаецца, што і М. Танк, і В. Быкаў, і Я. Купала, і ўсе адэкватныя літаратурныя крытыкі былі б рады пагартаць гэты нумар часопіса: маладыя аўтары «трымаюць марку» і бясспрэчна маюць талент!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Вершы пра сваё

ДА 85-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ



Еўдакія Лось належыць да тых паэтаў, біяграфіі якіх неабавязкова чытаць асобна: яна неаднаразова ўзнаўляе ў вершах асноўныя моманты свайго жыцця і амаль заўсёды піша ад імя жанчыны. Натуральна, літаратурны твор можа быць напісаны ад імя патрыёта, падарожніка, камуніста, інтэлектуала, аматара прыроды — і неабавязкова павінны быць гендарна маркіраваны. Е. Лось як паэтка паўстае ў розных абліччах, але найцікавейшымі падаюцца вершы, дзе яе голас гучыць менавіта як голас жанчыны.

Пачатак верша «Пра жаночую паэзію» ўзнаўляе эпіграф — радок з Лі Цын-Чжао: «Ляжу адна, самотная, у ложку...»:

*А калі б я вось гэтак напісала?*
*Ад позіркаў бы кплівых запалала,*
*сказалі б,*
*што цнатлівасці ні крошкі*
*ў маім прызнанні, і адразу ў «ЛіМе»*
*пародыю змясцілі б*
*на жанчыну...*

Вядома, у 1960 — 1970-я гады беларуская інтымная лірыка была ў некалькі разоў менш інтымнай, чым сёння, хаця ў Еўропе ці тым больш у ЗША вершы старажытнай кітайскай паэтэсы нікога не ўразілі б разняволенасцю. Напрыканцы твора Е. Лось невыпадкова згадвае «жаночую вяснянку»: фальклорная, песенная стыхія вельмі блізкая для яе і надае вершам адмысловыя фарбы, якія рэдка сустрэнеш у сучаснай жаночай паэзіі.

Так, вельмі часта сустракаецца матыў вяселля, бо кожнае вяселле — сіроцкае, сяброўчына, нешчаслівае, срэбнае — важнае для жанчыны не толькі як падзея прыватнага жыцця, але і як адзін з галоўных сямейных абрадаў. Верш «Памяці бацькі», які пакідае надзвычай моцнае ўражанне, напісаны на мяжы двух жанраў — галашэння і вясельнай сіроцкай песні.

Народная песня — не толькі крыніца матываў і мастацкіх вобразаў, але і аснова многіх вершаў, дзе фальклорныя сімвалы выкарыстоўваюцца як своеасаблівы шыфр: верш нібыта пра згубленыя завушніцы, пра белую ружу ці кіслую шчаўлінку, а насамрэч справа зусім у іншым… Тое, што было табуіраваным у сямейна-абрадавай паэзіі, застаецца непажаданым і ў савецкай літаратуры, дзе шчыры расповед пра асабістае не вельмі запатрабаваны:

*Рэдактар кажа:*
*дайце пра грамадскае,*
*А я прынесла вершы —*
*пра сваё...*
*Бяру назад,*
*нібы дабро жабрацкае,*
*І сэрца захлынаецца маё. <...>*
*І вось мужчыне хмурнаму здалося,*
*Што вершы пра маё —*
*чужыя тым,*
*Хто цэглу лепіць, мацае калоссе*
*І плача на кургане залатым.*

Е. Лось, вядома, пісала і пра цымбалы з чырвоным бантам, і пра армію, і пра рабочую Серабранку, але імкнулася рабіць гэта добра і ад душы. Так, «закон шахцёраў» у вершы пра салякопа гучыць як бліскучая сентэнцыя: «Калі задымлены твой шлях, / Ад немачы няма збавення, — / Насустрач свежаму струменю / Ідзі — і выйдзеш на прасцяг!»

З іншага боку, расчараванні ў дзявочых марах, якія прыйшліся і на нядоўгі «бабін век» паэткі, не абсалютызаваліся, не ператвараліся ў паталогію: грамадскае мела не меншую значнасць, чым прыватнае. Вельмі важнай для Е. Лось была ваенная тэма, і менавіта жаночы падыход робіць адметнымі гэтыя старонкі яе паэзіі.

Для жанчыны вайна — не толькі страх і голад, гэта яшчэ і ўласная мізэрнасць, непрывабнасць, час, калі прыгажосць зусім не скарб, а небяспека. На вайне загінуў брат паэткі — і Е. Лось часта падкрэслівала значнасць сястрынскай памяці пра забітых салдат: «Жонка плача — час да часу, / Маці плача — век да веку, / Сястра плача — год да году, / Да сканання свайго роду…» У іншым вершы гераіня наведвае жонку забітага брата, якая мае новую сям'ю, і ўглядаецца ў вочы яе дзяцей — «Нібы хоча ў чорненькіх тых вачанятах / Адшукаць гэткі мілы і родны блакіт…» З вялікай спагадай піша паэтка пра жанчын ваеннага пакалення, якім так і не давялося стварыць сям'ю, — і ўсё гэта нюансы, на якія паэты-мужчыны не так часта звярталі ўвагу.

Крыніцай натхнення для Е. Лось, напэўна, былі спачуванне, жаль, абурэнне, трывога, адчуванне страты — пачуцці, якія можна экстрапаліраваць на многіх людзей, на многія сітуацыі. У вершах, што пабачылі свет пасля нараджэння сына, яна часта падкрэслівае невымоўную жорсткасць вайны ў дачыненні да дзяцей — зрэшты, у Е. Лось багата твораў пра дзяцей, пра дзяцінства, напісаных і з іншай нагоды, прычым не толькі ў жанрах дзіцячай літаратуры.

Вельмі па-жаночы пісала яна і пра хуткаплыннасць часу: надыходзіць «бабін век», сумна глядзець на маладзейшую сястру, але «Гады жывуць у чалавеку, / нібыта ў яблыку крутым…» (выдатны верш), дый «Я была ўжо бабулькай хілай / На дванаццатым годзе жыцця…» Час — гэта ўзрост, гэта непазбежныя змены ў знешнасці, якія не абмінае ўвагай ніводная жанчына, але праця — у дзецях, і сваёй усмешцы можна навучыць сына...

Паэзія Е. Лось вельмі рэчыўная, вельмі канкрэтная, і мастацкія знаходкі заўсёды вылучаюцца ў яе радках. Творчае крэда яна вызначала рана: «Люблю / зямлю / не абстрактную — / Рэальную, пругкую, чорную, / Прасёлачную і трактавую, / Залежную і ворную».

У Еўдакіі Лось ёсць шмат іншых вартых вершаў — пра лаву, бульбу і ганчара, ёсць верлібр «Я прачытала, што ў адной краіне…», не горшы за верлібры Максіма Танка, ёсць творы, прысвечаныя Радзіме, вядомыя многім беларусам. Зварот да яе паэзіі — гэта не толькі знаёмства са станаўленнем беларускай жаночай літаратуры, але і магчымасць прачытаць радкі, важныя для кожнага чалавека.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прафесар, які дапамог студэнту

Мовазнавец, доктар філалагічных навук прафесар Васіль Старычонак добра вядомы ў Беларусі і далёка за яе межамі. Больш як за 35 гадоў навукова-педагагічнай дзейнасці ён узнагароджаны медалём Францыска Скарыны і знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь».

Васіль Старычонак ужо ў студэнцкія гады на філалагічным факультэце праявіў сябе як удумлівы і ўлюбёны ў навуку юнак. У 1976 годзе пасля заканчэння філфака (канечне, з адзнакай) ён пачаў працу ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР. З 1982 г. В. Старычонак працуе ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка і сёння з'яўляецца дэканам факультэта.

Кола навуковай дзейнасці прафесара Старычонка даволі шырокае: дыялекталогія, лексікалогія, лексікаграфія, міжмоўныя кантакты, полісемія, семантыка, культура маўлення і інш. Падчас працы ў Інстытуце мовазнаўства ён амаль штогод выязджаў у дыялекталагічныя экспедыцыі ў розныя рэгіёны рэспублікі і пагранічныя раёны Латвіі і Літвы. Першыя навуковыя працы Васіля Дзянісавіча ўяўлялі сабой тэматычныя і рэгіянальныя падборкі дыялектных слоў, якія былі змешчаны ў навуковых зборніках «Живое слова» (Мінск, 1978) і «Народная словатворчасць» (Мінск, 1979). Па дыялектнай лексіцы ён абараніў і кандыдацкую дысертацыю ў 1980 годзе.

Прафесар Старычонак — суаўтар дзвюх фундаментальных акадэмічных прац: пяцітомнага «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (Мінск, 1979 — 1986) і пяцітомнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (Мінск, 1993 — 1998), які ў 2000 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Праблемам семантычнай дыферэнцыяцыі полісемантаў, іх прасторавай варыятыўнасці ў беларуска-польска-літоўскім пагранічны прысвечаны артыкулы В. Д. Старычонка ў часопісах «Вопросы языкознания», «Филологические науки», «Studia z filologii polskiej i słowiańskiej», «Baltistica», «Acta Baltico-Slavica», «Žmogus iz žodis. Svetimosios Kalbos», шматлікіх зборніках навуковых прац. Таксама ён склаў першы ў Беларусі «Слоўнік балтызмаў у беларускай мове», фрагмент якога апублікаваны ў манаграфіі «Двуязычие: теория и практика» (Мінск, 2012), першыя фундаментальныя працы, прысвечаныя полісеміі і аманіміі, — «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» (Мінск, 1991), «Слоўнік метафар беларускай мовы» (рукапіс), манаграфіі «Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў)» (Мінск, 1997), «Метафара ў беларускай мове» (Мінск, 2007).

У 90-я гады Васіль Дзянісавіч выкладаў беларускую літаратуру на падрыхтоўчых курсах мінскіх ВНУ. Тады і задумаўся, як дапамагчы моладзі здаць экзамен станоўча і застрахавацца ад традыцыйных памылак. Праблему вырашылі тры выпускі метадычных парад і рэкамендацый, якія выйшлі асобнай кніжкай пад назвай «Беларуская літаратура: Дапаможнік для абітурыентаў» у 1993 г. (выдавецтва «Вышэйшая школа»). Лёс кнігі быў шчаслівы: з дапаўненнямі і ўдакладненнямі яна перавыдавалася больш як дзесяць разоў. Своеасаблівым абагульненнем прац па беларускай літаратуры можна лічыць кнігу-даведнік В. Д. Старычонка «Беларуская літаратура: ад А да Я» (Мінск, 1998, 2000). Гэта першае ў беларускім літаратуразнаўстве энцыклапедычнае выданне, у якім поўна і ўсебакова адлюстраваны матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры, змесце твораў, літаратурных жанрах, мастацкіх метадах, літаратуразнаўчых тэрмінах, біяграфіях пісьменнікаў і г. д.

Адначасова прафесар Старычонак працаваў над метадычнымі рэкамендацыямі па напісанні сачыненняў. У той час многія лічылі ўступны экзамен у выглядзе сачынення складаным і прапаноўвалі замяніць яго дыктантам, пераказам, цэнтралізаваным тэсціраваннем. І гэта не дзіўна: сачыненне заўжды лічылася адным з самых складаных экзаменаў, на якім правяраецца не толькі пісьменнасць, але і ўзровень эстэтычнага і духоўнага развіцця абітурыента. Таму Васіль Дзянісавіч задумаў серыю дапаможнікаў: «Ах, сачыненні, сачыненні…» (Мінск, 1995, 3-е выд., 1997), «Як правільна пісаць сачыненні па беларускай літаратуры» (Гродна, 1997), «55 сачыненняў па беларускай літаратуры» (Мінск, 1997, 2-е выд. 2002), «50 новых сачыненняў па беларускай літаратуры» (Мінск, 1997), «100 сачыненняў па беларускай літаратуры» (Мінск, 1998, 2-е выд., 1999), «150 сачыненняў па беларускай літаратуры» (Мінск, 1999), «155 сачыненняў па беларускай літаратуры» (Мінск, 2000, 2-е выд., 2001).

Каб заахвоціць студэнтаў да вывучэння мовы і літаратуры, пашырыць іх кругагляд і моўную эрудыцыю, Васіль Дзянісавіч напісаў кнігу «Займальная філалогія» (Мінск, 1998), дзе ў сціслай і па магчымасці цікавай форме выклаў пытанні беларускай і рускай мовы і літаратуры.

Сёння прафесар надае вялікую ўвагу выкладанню моў ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму і клапоціцца пра стварэнне інавацыйных дапаможнікаў па рускай мове. Ён суаўтар кніг «Современный русский язык» (Мінск, 1990, 1992, 1994), аўтар кніг «Основы фонологии» (Мінск, 1999), «Русский язык: Лингвистические анализы» (Мінск, 1999), слоўніка-даведніка «Русский язык. Школьный словарь справочник» (Мінск, 2002). Васіль Дзянісавіч стаў ініцыятарам серыі шматлікіх вучэбных дапаможнікаў па рускай мове. У 2008 годзе ў выдавецтве «Феникс» (Растоў-на-Доне) апублікаваны «Большой лингвистический словарь» В. Д. Старычонка, які ўключае тлумачэнне звыш трох тысяч лінгвістычных тэрмінаў і паняццяў.

Дзеля павышэння культуры маўлення ён распрацаваў дапаможнікі «Культура речи и деловое общение» і «Культура речи» (у суаўтарстве з Л. Р. Рудзь і І. П. Кудраватых), «Деловое общение и речевая культура современного преподавателя» (Мінск, 2010). Дарэчы, апошняя ў 2013 г. выйшла ў перакладзе на кітайскую мову.

Цяпер прафесар Старычонак завяршае «Слоўнік метафар беларускай мовы», працуе над манаграфіяй па другасных семантычных найменнях, цыклам работ па дыстанцыйным і модульным навучанні, некалькімі падручнікамі і інш.

**Мікалай КРЫЎКО**

# Раман за калючым дротам

Беларуская літаратура засведчыла сябе ў свеце як літаратура перадусім ваеннай тэмы. Прычым яна далёка не вычарпаная, хоць кожны пісьменнік, які звяртаецца да яе, маючы за сабой багатую і плённую традыцыю, адчувае асаблівую адказнасць перад чытачамі і папярэднікамі — бліскучай плеядай беларускіх пісьменнікаў-франтавікоў. Адзін з сучасных празаікаў Беларусі Мікалай Чаргінец не раз выказваў пакланенне перад гераізмам загінуўшых і адначасова трапяткую ўдзячнасць старэйшым калегам, многія з якіх — Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, — былі яго сябрамі.

У рамане «Аперацыя "Кроў"» М. Чаргінец аднаўляе трагічныя эпізоды Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі, уздымаючы праблемы экзістэнцыйныя. У яго кнізе асобны чалавек з яго непаўторным духоўным светам супрацьстаіць пачварнай, непадуладнай розуму машыне разбурэння і вынішчэння жыцця.

**Раман цяжка чытаць — і ў той жа час ад яго немагчыма адарвацца: ён трымае ў напружанні да канца.**

Напал супраціўлення і барацьбы па меры разгортвання сюжэта ўзрастае паступова і ў кульмінацыі выбухае шэрагам паспяховых аперацый абаронцаў Айчыны.

Раман глыбока драматычны, пра што сведчыць і яго назва. Звычайная для твораў М.Чаргінца прыгодніцкая напружанасць працята трагізмам, бо гаворка ідзе пра дзяцей. Героі — і дзеці, і дарослыя — не проста бядуюць ва ўмовах акупацыі — яны пастаянна на мяжы пагібелі. Матыў паядынку — фізічнага і інтэлектуальнага — дарослых герояў, характэрны для твораў ваеннай тэмы, у рамане абцяжараны абрынутымі на людзей жахлівымі абставінамі генацыду.

Раман «Аперацыя "Кроў"» структурна складаны. Пры гэтым простасць і традыцыйнасць экспазіцыі раманнага дзеяння толькі падкрэсліваюць трагізм наступных падзей, якія ствараюць разгалінаваны сюжэт з мноствам персанажаў.

У экспазіцыі аўтар сведчыць, што жылі на вуліцы Старажоўскай у Мінску, вакол аднаго двара, тры сям'і: дзве яўрэйскія — Левіных і Рабіновічаў — і адна беларуская — Статкевічаў. Усе сем'і працоўныя, шматдзетныя. Паміж сабою надзвычай дружныя. Мірнае і ўвогуле шчаслівае быццё простых людзей кардынальна перамянілася пасля прыходу захопнікаў. Адразу пачаліся аблавы, вобыскі і арышты. Сем'і Левіных і Рабіновічаў забралі ў гета.

У Беларусі акупанты арганізавалі больш як сто лагераў смерці для яўрэяў. З іх самы вялікі — у Мінску: тут забіта больш як сто тысяч чалавек. Кніга М. Чаргінца аднаўляе абставіны жыцця і барацьбы яўрэяў у мінскім гета. Раман, заснаваны на дакументальных фактах і прасякнуты асабістым пачуццём шкадавання і горычы, — яскравы дакумент, што прад'яўляецца сёння ўсім, хто адмаўляе Халакост, — не толькі асобным людзям, але і некаторым краінам, на шчасце, нешматлікім. Халакост быў! Кашмарныя формы і асабліва вялікі маштаб ён прыняў на тэрыторыі акупіраванага фашыстамі СССР. Як піша М. Чаргінец, «асаблівасцю Беларусі з'яўляецца тое, што яна выбрана як месца знішчэння яўрэяў з Заходняй Еўропы. Сюды прывезлі яўрэяў з Германіі, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Польшчы, Францыі, Галандыі, Венгрыі і з іншых краін». *(Тут і далей пераклад з рускай мовы мой. —* **Т. Ш.***)* Акрамя таго, Мінск так хутка, за некалькі дзён, быў заняты немцамі, што шмат якія мясцовыя яўрэі не паспелі эвакуіравацца. Яны ўсе апынуліся ў гета.

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун гаворыць пра тое, «наколькі неспасцігальным з'яўляецца Халакост нават сёння. Жорсткасць была непамернай, маштабы злачынстваў — велізарнымі, нацысцкі светапогляд — паталагічны да крайнасці, а забойствы — добра арганізаванымі і прадуманымі». Усё гэта аднаўляе М. Чаргінец, паказваючы людзей, якія трапілі ў машыну смерці. Раман цяжка чытаць — і ў той жа час ад яго немагчыма адарвацца: ён трымае ў напружанні да канца.

Мінскае гета — раён невялікіх мураваных домікаў, кварталы каля вуліцы Нямігі, гістарычны цэнтр горада. У рамане паўстаюць карціны існавання людзей у найцяжэйшых, абсалютна невыносных, асабліва для дзяцей, умовах. Неверагодная цесната, голад, пастаянны страх за сваё жыццё і жыццё родных. «Праз два-тры дні вобыскі, пагромы, рабаванне ўпрыгожанняў, футра, адзення, абутку, пагрозы расстрэлаў. Гэта былі не проста пагрозы. Кожны дзень у гета чуліся выстралы, па пяць-шэсць разоў на дзень машыны-душагубкі адвозілі дзясяткі людзей».

Аднак і ў такіх нечалавечых умовах людзі не здаваліся. Вядома, што антыфашысцкае мінскае падполле ўпершыню заявіла пра сябе менавіта ў гета. Была наладжана сувязь паміж партызанскімі атрадамі і гета, адкуль здараліся ўцёкі. Тыя, каму пашанцавала збегчы, папаўнялі партызанскія атрады вакол горада.

Паказаўшы асобныя эпізоды дзейнасці падпольшчыкаў у гета, аўтар у далейшым пашырае сюжэтную прастору твора. Арыгінальнай асаблівасцю рамана з'яўляецца яго шматпадзейная завязка. Частка такой завязкі — сутыкненне Міхаіла Левіна з былым знаёмым, здраднікам Ліпковічам, які ў далейшым не раз з'явіцца на старонках кнігі. Не абыходзіць увагай аўтар і злавесную «дзейнасць» намесніка Гітлера на Беларусі — гаўляйтара Кубэ, аднаго са стваральнікаў тэхналогіі масавых забойстваў.

Раман маштабны. Не раз дзеянне перамяшчаецца з Мінска ў лясныя партызанскія зямлянкі і ў Маскву — на пасяджэнні высокіх штабоў. У гэтым выпадку пісьменнік аднаўляе не толькі абмеркаванні важных стратэгічных пытанняў, але і прыводзіць некаторыя статыстычныя дадзеныя, якія ўвогуле варта згадваць часцей. Так, у кнізе адзначаецца, што на пачатак 1944 года на тэрыторыі рэспублікі немцы стварылі 260 лагераў смерці. «Карнікі знішчылі не менш як пяць тысяч населеных пунктаў, больш за пяцьсот з іх знішчаны разам з жыхарамі. <…> Фашыстамі забіта ў нашай Беларусі больш за два мільёны чалавек, каля паловы мільёна вывезены ў рабства ў Германію». Гэта беспрэцэдэнтна. І ў той жа час нідзе так апантана, як у Беларусі, народ на супраціўляўся акупантам. «На тэрыторыі БССР, — піша М. Чаргінец, — партызанскі рух — агульнанародны. Колькасць байцоў партызанскіх атрадаў каля 400 тысяч чалавек, яны ўваходзяць у 1255 атрадаў». Кіраўнікі аднаго з блізкіх да Мінска падраздзяленняў якраз і дзейнічаюць у рамане.

Не раз па ходзе сюжэта дзеянне ад дарослых персанажаў перамяшчаецца да дзяцей, падлеткаў, маладых людзей. Старэйшая з дзяцей беларускай сям'і Статкевічаў, сямнаццацігадовая Жэня, партызанская сувязная, упарта імкнецца даведацца пра лёс суседзяў, якія для яе па-сапраўднаму блізкія людзі. Толькі ў 1943 годзе ёй удаецца трапіць на тэрыторыю гета, а ў далейшым і выратаваць малодшую з Рабіновічаў, трохгадовую Элу. Як гэта адбывалася, аўтар апісвае падрабязна і выключна праўдзіва. Яўрэяў у гета, у тым ліку старых, жанчын і дзяцей, ганялі на цяжкія работы ў горадзе. У раёне Заходняга моста калону сустракалі жыхары горада, імкнучыся перадаць знаёмым яўрэям што-нішто з харчу. Бывала, што з калоны выскоквалі дзеці і хаваліся ў натоўпе. Праўда, вечарам яны звычайна вярталіся да бацькоў. «Але канвойныя ўважліва сачылі, каб з калоны не выскоквалі дзеці, меншыя за шэсць гадоў. Такіх дзяцей бацькі, прадбачачы жахлівы канец, імкнуліся перадаць любому чалавеку». Так і Мары Рабіновіч удалося кінуць маленькую Элу на рукі Жэні. Тая, збягаючы, сутыкнулася з паліцэйскім, што было вельмі небяспечна. Але ім аказаўся яе былы аднакашнік Лёнька Цвяткоў. Леанід дапамагае Жэні схавацца. Эла пачынае расці ў сям'і Статкевічаў. Двух дзяцей Левіных таксама выратоўваюць, але астатнія члены сям'і гінуць у гета... Маладыя людзі Жэня і Леанід паступова робяцца галоўнымі героямі рамана.

**Творчую манеру пісьменніка характарызуе надзвычайная ўвага да падрабязнасцей побыту і ваенных дзеянняў.**

Леанід уцягваецца ў падпольную барацьбу. Па меры чытання рамана можа скласціся ўражанне, што Леанід — нешта кшталту «супермена»: усе акцыі яму ўдаюцца лёгка, больш за тое, у канцы ён атрымоўвае прапанову ад абодвух бакоў стаць спецыяльным агентам. Аднак прыгодніцкія сітуацыі ў рамане зусім не супярэчаць праўдзе жыцця, а тым больш праўдзе вайны. Сапраўды, сустракаліся сярод байцоў асабліва ўдачлівыя і разведчыкі, і ўзрыўнікі, і снайперы. Бывала, што ў экстрэмальных сітуацыях праяўляліся такія здольнасці чалавека, пра якія ён і сам не ўяўляў. Што ж да Леаніда, то аўтар, ідучы за жыццём, паказвае паступовасць перараджэння героя — пад уплывам Жэні, якая ў фінале робіцца яго жонкай, і галоўным чынам пад уплывам страшных абставін вайны, тых жахлівых імператываў, якія абрынуліся на самых звычайных людзей і патрабавалі ў рэшце рэшт абавязковаці маральнага выбару. У маленстве гарэзлівае дзіця (а такія і робіцца ў дарослым жыцці героямі авантурных прыгод), Леанід паступова прывычайваецца абдумваць усё бачанае і пачутае, кожны свой крок аналізаваць, прагназаваць магчымыя наступствы ўчынкаў. Так загартоўваўся характар.




**Раман «Аперацыя "Кроў"» структурна складаны. Пры гэтым простасць і традыцыйнасць экспазіцыі раманнага дзеяння толькі падкрэсліваюць трагізм наступных падзей, якія ствараюць разгалінаваны сюжэт з мноствам персанажаў.**

Дзейнасць Леаніда ў многім дапамагла партызанам правесці адну з самых сваіх удалых акцый — выратаваць дзяцей з дзіцячага лагера смерці ў Сёмкаве.

У савецкім інтэрнаце Сёмкава, размешчаным у былым маёнтку магнатаў, немцы арганізавалі патаемную станцыю для забірання крыві ў дзяцей, каб пераліваць сваім параненым салдатам. Пастаянныя заборы крыві даводзілі дзяцей да смерці, а потым іх або хавалі прама ў маёнтку, або адвозілі ў печы лагера смерці Трасцянец. Партызаны разам з дасведчанай разведчыцай з Масквы распрацавалі аперацыю па выратаванні дзяцей, якой далі кодавую назву «Кроў». Правядзенне аперацыі было надзвычай складанай задачай: мястэчка знаходзілася паблізу Мінска ў акружэнні шматлікіх нямецкіх гарнізонаў, пад аховай латышскіх, літоўскіх і ўкраінскіх паліцыянтаў, якія адрозніваліся асаблівай жорсткасцю. У пасляслоўі рамана «Ад аўтара» М. Чаргінец называе іншыя дзіцячыя канцлагеры ў Беларусі. Але Сёмкава — адзін з найбольш буйных, куды пастаянна дзяцей прывозілі таксама і з гета.

Аперацыя была распрацаваная надзвычай скрупулёзна. М. Чаргінец у рамане звяртае ўвагу на ўсе яе аспекты, дэталі, прапрацоўку ўсіх магчымых сітуацый. І акцыя скончылася бліскуча: выратавалі і вывезлі ў Маскву пяцьсот дзевятнаццаць дзяцей.

Творчую манеру пісьменніка характарызуе надзвычайная ўвага да падрабязнасцей побыту і ваенных дзеянняў. Такая ўвага да дробязей, дакладнасць, фактаграфічнасць дазваляюць аўтару вырашаць некалькі эстэтычных задач: па-першае, аднавіць антураж дзеяння, па-другое, па-мастацку ўзбуйніць маштаб падзей, паказаць іх незвычайнасць, па-трэцяе, псіхалагічны аналіз як бы растварыць у апісаннях, што характэрна менавіта для беларускай школы раманістыкі. У апавяданне ўводзяцца тыя субстанцыяльныя падрабязнасці жыцця, без якіх не можа быць гэтага жыцця. І не можа быць яго разумення.

Шырокі ахоп рэчаіснасці ваенных гадоў, разгорнутае эпічнае апавяданне арганічна зліваюцца ў рамане з публіцыстычным пафасам пісьменніка, яго цікавасць да гістарычнай дакументальнасці — з вострым пачуццём сучаснасці. Мікалай Чаргінец напісаў сюжэтна цікавы і яркі твор.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

*Прэзентацыя*

# Прыцягненне Віцебска

Сталічны «Кніжны салон» прапанаваў гасцям, сябрам, сталым наведвальнікам і пакупнікам, а таксама новым знаёмым выдатную імпрэзу. З адмысловай мэтай прэзентаваць новую кнігу і серыю ў Мінск з Віцебска завіталі дырэктар Музея Марка Шагала Людміла Хмяльніцкая і супрацоўніца Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці Святлана Мясаедава. А нагода для сустрэчы з публікай вось якая: не так даўно ў выдавецтве «Медысонт» выйшла першая кніга серыі «Кніжная лаўка Дома Шагала» — даследаванне Гаўрыіла Юдзіна, вядомага дырыжора, кампазітара, педагога, які нарадзіўся ў Віцебску, «Музычнае жыццё Віцебска ў першай чвэрці XX стагоддзя». Рукапіс, завершаны аўтарам яшчэ ў 1971 годзе, пабачыў свет толькі цяпер.

Большая частка жыцця Гаўрыіла Юдзіна прайшла ў Маскве. У родным Віцебску, дзе ён нарадзіўся ў 1905 годзе, музыка пражыў да рэвалюцыі, быў тут і ў паслярэвалюцыйны час, калі ў горадзе адкрылася народная кансерваторыя. Потым давялося пакінуць радзіму.

— У канцы 1950-х гадоў Гаўрыіла Якаўлевіча, ужо вядомага і прызнанага, успамінамі цягне ў Віцебск. І ў пачатку 1960-х гадоў гэтая памяць прымушае яго ўзяць у бібліятэцы падшыўкі «Віцебскіх губернскіх ведамасцяў», каб зрабіць выпіскі. Якія музычныя калектывы наведвалі горад? Які рэпертуар тут прадстаўляўся? Якім увогуле было музычнае жыццё Віцебска ў той час? На гэтыя пытанні імкнуўся адказаць кампазітар, — распавяла падчас прэзентацыі Людміла Хмяльніцкая пра гісторыю напісання і выдання ўнікальнага даследавання. — Гэтай працай Юдзін займаўся больш як 10 гадоў. Але сталася, што даследаванне было напісана амаль што ў стол. Мы ведаем пра першапачатковую дамоўленасць з адным маскоўскім выдавецтвам, але па невядомых прычынах у той час кніга так і не пабачыла свет. Толькі цяпер яна трапіла да чытача. Рукапіс — 125 старонак шчыльнага машынапіснага тэксту — быў перададзены ў Музей Марка Шагала Аляксандрай Шацкіх, вядомым гісторыкам рускага авангарду, якая сёння жыве ў Нью-Ёрку. Мы адразу вырашылі: трэба выдаваць! Кніга пабачыла свет намаганнямі Музея Марка Шагала і Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці. Рукапіс быў падрыхтаваны да выдання, адкаменціраваны і дапоўнены артыкуламі, якія таксама характарызуюць культурнае жыццё Віцебска таго часу, раскрываюць эпоху ці распавядаюць пра асобных дзеячаў.

Але звернемся да самой кнігі. Даследаванне Гаўрыіла Юдзіна складаецца з чатырох глаў. Першая — своеасаблівы ўступ, які акрэслівае адметнасці арганізацыі музычнай адукацыі ў горадзе, распавядае пра спробы стварэння сімфанічнага аркестра, згадваюцца тут і мясцовыя музыкі — выканаўцы і педагогі. Вывучэнне музычнага жыцця роднага горада аўтар пачынае яшчэ




з 1900 года. Менавіта гэтая дата стала пачаткам «Летапісу канцэртнага жыцця Віцебска», які склаў другую главу кнігі. Трэцяй часткай стаў расповед пра гастролі оперных труп у горадзе над Дзвіной у перыяд з 1900 па 1917 год. І гэтая глава не можа не ўразіць чытача. Варта звярнуцца толькі да лічбаў. Да прыкладу, Юдзін піша, што ў снежні 1904 года ў Віцебску выступае руская опера Барыслаўскага. Яна дае 15 вячэрніх і тры ранішнія спектаклі. Цягам кастрычніка-лістапада 1906 года Карпаратыўнае таварыства сцэнічных дзеячаў дае 50 спектакляў: 44 вячэрнія і 6 ранішніх. Паўсюль аншлагі.

— Я не ўпэўненая, што калі б цяпер у Віцебск з гастролямі прыехала оперная антрэпрыза і давала столькі спектакляў, то наведвальнасць пастановак была б такая ж высокая. Нават пры тым, што горад у тры разы большы па колькасці жыхароў, чым у пачатку XX стагоддзя, — разважае Людміла Хмяльніцкая.

У заключным раздзеле свайго даследавання Гаўрыіл Юдзін разглядае музычнае жыццё ў Віцебску пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў перыяд яго заняпаду.

Думаецца, наноў адкрытае даследаванне прынясе шмат карысці нашым сучаснікам, зацікаўленым гісторыяй музычнай культуры і адукацыі. Бо, перафразуючы класікаў, можна падкрэсліць: калі асобныя рукапісы не гараць, значыць, гэта камусьці патрэбна.

**Чэслава ПАЛУЯН**

*Унікальны праект*




# Нябронзавы класік

**Калі гэтая кніга ўпершыню пабачыла свет у 1989 годзе, то яе наклад вельмі хутка разышоўся, а само выданне стала для многіх адначасова і вялікай нечаканасцю, і выдатным адкрыццём. Не дзіўна: кніга адкрыла шмат невядомых старонак летапісу жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі, разам з тым змяніла ўяўленне пра тое, як трэба пісаць пра класікаў. Гаворка ідзе пра выданне «Лясному рэху праўду раскажу…». Гэта ўспаміны вядомай даследчыцы літаратуры, журналіста Валянціны Куляшовай пра свайго бацьку — знакамітага паэта Аркадзя Куляшова. Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў межах серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» кніга атрымала другое жыццё: па-новаму аформленая, дапоўненая выдатнымі фотаздымкамі, яна запрашае да гутаркі новых чытачоў. Прэзентацыя прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

У зале сабраліся не толькі прыхільнікі творчасці Аркадзя Куляшова, выдаўцы, даследчыкі, музейшчыкі, але і сваякі паэта, падчас імпрэзы гучала шмат вершаў класіка, успамінаў пра яго. Так, унук Аркадзя Куляшова, вядомы фалькларыст, калекцыянер музычных інструментаў, музыка, лідар фальклорнага гурта «Ліцьвіны» Уладзімір Бярбераў распавёў:

— Аркадзь Куляшоў быў чалавек з надзвычай разнастайнымі інтарэсамі. Вось чаму ягоная паэзія такая разнастайная па тэматыцы, вось чаму ў вершах згадваюцца касмічныя палёты яшчэ за некалькі гадоў да запуску першага штучнага спадарожніка, не тое што да першага палёту чалавека ў космас. Паэт быў вельмі замкнёны: пазбягаў трыбун, не любіў, калі што-небудзь адрывала ад творчасці. Апроч аднаго: ён быў вельмі рады, калі ў доме з'яўляліся разумныя людзі, з якімі ён мог весці доўгія размовы і пра космас, і пра кліматалогію, якая ў той час яшчэ нават не мела такой назвы. Уяўляеце, я сам чуў ад свайго дзеда тэорыю пра тое, што мы жывём у канцы ледавіковага перыяду. Калі ў сярэдзіне 1960-х адзін за адным ішлі вельмі засушлівыя і спякотныя гады, ён казаў, што ўсё гэта частка аднаго вельмі доўгага цыкла. Будзе паступова цяплець, дойдзе да нейкага піку, а потым зноў пачнецца пахаладанне. Проста цыкл настолькі доўгі, што людзі не могуць яго заўважыць. Менавіта пра гэта толькі 10-15 гадоў таму сталі казаць навукоўцы. А яшчэ Аркадзя Куляшова ад творчасці маглі адарваць шахматы. Ён быў выдатным шахматыстам, з ім неяк згуляў нават кандыдат у майстры спорту сярод юніёраў. Вынік быў такі: хлопцу не ўдалося ні разу выйграць у Куляшова з-за непрадказальнасці хадоў паэта. Ён гуляў і ў карты, але ўжо радзей, прызнаваў толькі прэферанс. Усе астатнія гульні, нават «тысяча», яму падаваліся нецікавымі, бо ў іх гуляць вельмі проста.

Працэс напісання твораў таксама ў яго быў свой, адметны. Дзядуля спачатку клаўся на канапу і доўга глядзеў у столь. Усе хатнія ведалі: нешта складае, можа, нават паэму. Пасля падымаўся, сядаў за стол і, па сутнасці, з хуткасцю сакратаркі пачынаў друкаваць твор на машынцы: у галаве ўсё ўжо было складзена. І гэты вялікі фрагмент трэба было толькі занатаваць. Дарэчы, у апошнія гады жыцця пісаць Куляшову дапамагала котка. Калі ён прадумваў творы на канапе, яна клалася на жывот ці грудзі, а калі сядаў да машынкі, котка сядала побач і зацікаўлена глядзела, як працуе машынка, нібыта магла нешта зразумець. Дзядуля быў надзвычай далікатным чалавекам. Для яго было недапушчальна каго-небудзь пакрыўдзіць. Не толькі чалавека, ён і ў чатырохногіх нашых сябрах таксама паважаў асобу, нават абразіць звера лічыў недапушчальным.

Своеасаблівую рэкламу новаму выданню падчас выступлення зрабіла даследчыца жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова, загадчык аддзела тэксталогіі і выданняў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук Тэрэза Голуб:

— Валянціна Аркадзьеўна піша з надзвычайнай лёгкасцю, а сама кніга чытаецца на адным дыханні. Гэтае выданне каштоўнае для кожнага чытача. З яго старонак вы даведаецеся пра род Куляшовых па лініі бацькі і маці, пра дзяцінства паэта, яго захапленне творчасцю класікаў рускай літаратуры, пра тое, адкуль бяруць вытокі паэтычныя радкі аўтара, а таксама пра яго незвычайныя здольнасці пісаць. Аркадзь Куляшоў любіў пісаць алоўкам. Думаецца, гэтая адметнасць яго творчай індывідуальнасці бярэ пачатак яшчэ ў той час, калі паэт сябраваў з Астапенкам і Таўбіным і яны жылі разам на кватэры на вуліцы Розы Люксембург. У іх быў вельмі цесны пакойчык, пісаць хацелася, а месца для таго, каб карыстацца пяром і чарнілам, не было. Таму даводзілася пісаць алоўкам. У Валянціны Аркадзьеўны вы прачытаеце і пра часы яго навучання, з кім сябраваў, якім ён быў верным таварышам на ўсё жыццё. А сяброўства Куляшова з Аляксандрам Твардоўскім — і ўвогуле асобная старонка жыцця класіка. Тут можна прачытаць гісторыі напісання вядомых вялікіх паэм, а таксама цікавыя расповеды пра тое, як склаліся асобныя вершы. Перад намі выдатная кніга, успаміны не толькі дачкі класіка, але і выдатнага літаратуразнаўцы і журналіста.

Але не толькі гэтае выданне сталася данінай памяці класіка да стагоддзя з дня нараджэння. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі падрыхтаваная адмысловая выстаўка, у межах якой прадстаўлены зборы твораў Аркадзя Куляшова, творы паэта ў перакладзе на розныя мовы, публікацыі, змешчаныя ў перыёдыцы і зборніках навуковых артыкулаў, а таксама манаграфіі, у якіх разглядаюцца жыццё і творчасць пісьменніка. На гэтай выстаўцы можна пабачыць і сапраўдны рарытэт — паэму А. Куляшова «Сцяг брыгады», што была выдадзеная ў 1943 годзе асобнай кнігай. Сёння гэты асобнік ужо адрэстаўраваны, але ён і цяпер выдаецца чытачам. Добрым падарункам да юбілею класіка стане і новае выданне манаграфіі Тэрэзы Голуб «Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова». Зусім хутка яе дапоўнены і дапрацаваны тэкст у новым афармленні пабачыць свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# І зноў — «БрамаМар»

«Маладосць» нячаста адважваецца рабіць спецнумары, а калі адважваецца, то нагода, як правіла, сур'ёзная. У дадзеным выпадку больш сур'ёзнай нагоды не прыдумаеш: літаратурны конкурс школьнікаў і студэнтаў «БрамаМар». Гаворка ж ідзе пра самую што ні на ёсць маладую, свежую, дагэтуль нікім не ацэненую літаратуру і яе стваральнікаў. Сёлетні «БрамаМар» быў арганізаваны Інстытутам журналістыкі БДУ і Выдавецкім домам «Звязда», а «Маладосць» выступіла ў якасці інфармацыйнага партнёра конкурсу.

Што вы знойдзеце ў часопісе? Найперш — творы ўдзельнікаў: паверце, статус пераможца/непераможца мала што вырашае. Пераможцаў мы, канечне, віншуем і бязмерна шануем, але заклікаем асабліва не прывязвацца да афіцыйных вынікаў конкурсу. Бо ацэнка творчасці часта справа суб'ектыўная, а таму няўдзячная (развагі пра гэта вы, дарэчы, таксама знойдзеце ў нумары). Пра крэатыўнасць брамамараўцаў кажуць нават іх імёны. Узяць хаця б пераможцу ў намінацыі «Паэзія» Андруся Bezdar'а. Адразу бачна: чалавек не толькі з фантазіяй, але і з самаіроніяй. Ужо цікава. А больш пра гэтую асобу вы даведаецеся з яговых вершаў і гутаркі з ім не менш крэатыўнага Віктара Лупасіна. Намінацыю «Проза» ўпрыгожвае неверагодна цёплы і па-мастацку гарманічны твор Касі Глухоўскай «Спеў аднoй пярліны», які не трапіў у лік пераможцаў (вось вам паказчык). А ўвогуле, вы будзеце здзіўлены тэматычнай, ідэйнай, настраёвай разнастайнасцю твораў маладых беларусаў, што спрабуюць выявіць сябе ў мастацтве слова і не баяцца вынесці гэта на суд дасведчаных літаратараў і чытачоў. Штосьці вам больш спадабаецца, штосьці меней, аднак вы зможаце зразумець думкі сённяшняй моладзі. Каштоўная магчымасць, ці не так?

Не абышлося тут без казусаў і праблемных пытанняў. Напрыклад, праваліласся намінацыя «Белетрыстыка». Як так? Маладыя беларусы не пішуць белетрыстычных твораў падчас найбольшага ўздыму масавай літаратуры? Паназіраць за тым, як вядомыя навукоўцы і пісьменнікі спрабавалі разгадаць гэтую таямніцу падчас спецыяльнага «круглага» стала, вы зможаце ў артыкуле «Без белетрыстыкі».

Працаваць над такім нумарам было даволі рызыкоўна, бо творы большасці ўдзельнікаў — літаратурныя дэбюты, а таму іх якасць выклікае сумніў. Аднак мы, стваральнікі нумара, засталіся задаволены вынікам: ён атрымаўся цэласным і арыгінальным. Хто ведае, можа, гэты нумар «Маладосці» з'явіўся для таго, каб надаць рашучасці патэнцыяльным творцам, якія баяцца пусціць у ход свой дар, і дапамагчы іх таленту прарасці…

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

# Урок з пісьменнікам

Гэты ўрок для вучняў шостых класаў сталічнай СШ № 45 прыкметна адрозніваўся ад звычайных: у ролі настаўніка гэтым разам выступіў пісьменнік Анатоль Зэкаў. Ужо напачатку госць папярэдзіў, што ўрок беларускай літаратуры стане адначасова і ўрокам мовы, гісторыі, геаграфіі, нават... матэматыкі.

І школьнікі неўзабаве пераканаліся ў тым самі: у выкананні аўтара гучалі вершы на гістарычную тэму, згадваліся геаграфічныя назвы, звязаныя з яго асабістай біяграфіяй, вучні практыкаваліся ў перакладах з беларускай мовы на рускую і наадварот, а таксама разгадвалі паэтычна-матэматычныя задачкі з укладзенай Анатолем Зэкавым кнігі твораў беларускіх паэтаў «Колькі дзе чаго», якая напрыканцы мінулага года пабачыла свет у выдавецтве «Народная асвета».

Атрымаўся зусім не маналог: вучні і самі актыўна задавалі пытанні свайму «настаўніку». Пісьменнік ахвотна адказваў на іх: дзе ўсур'ёз, а дзе і з уласцівым яму гумарам. На добры ўспамін пра сустрэчу ў вучняў засталіся выдадзеныя летась кнігі Анатоля Зэкава «Кенгуру ці кенгура?», «Не казкі пра Сашку» і «Як Гаўка ў космас збіраўся» з аўтографам аўтара.

**Анатоль ПАТАПАЎ**

# Беларускім татарам

Сёння ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі адбыўся міжнародны семінар-дыялог «Вывучэнне культурнай спадчыны татараў Беларусі». Ён адкрыў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных памяці Ібрагіма Канапацкага (28.02.1949 — 09.09.2005) — навукоўца, выдатнага грамадскага дзеяча, намесніка старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання татараў «Зікр уль-Кітаб» («Памяць і кніга»), кандыдата гістарычных навук, дацэнта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.



Да імпрэзы супрацоўнікамі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа НАН Беларусі арганізавана выстаўка «Вучоны, грамадскі і рэлігійны дзеяч». Экспазіцыя адлюстроўвае сферу навуковых і грамадскіх інтарэсаў Ібрагіма Канапацкага, якому сёння споўнілася б 65 гадоў. Да ўвагі наведвальнікаў — рукапісы татараў Беларусі канца XVII — пачатку XX ст. з фондаў ЦНБ НАН Беларусі, даследаванні айчынных і замежных навукоўцаў пра татарскую кніжнасць.

Кніжная культура татараў-мусульман Беларусі — з'ява ўнікальная. Яны пачалі перасяляцца на беларускія землі з XIV ст., і, відавочна, ужо ў XVI ст. беларуская мова стала для іх па-сапраўднаму матчынай. Каб зберагчы на новай радзіме ісламскую рэлігію, татары пераклалі на беларускую і польскую мовы свае рэлігійныя кнігі, карыстаючыся пры гэтым свяшчэнным для мусульман арабскім алфавітам.

Рукапісы татараў Беларусі атрымаліся шматмоўнымі: у іх змяшчаліся тэксты на арабскай, цюркскай, беларускай і польскай мовах, усе яны былі напісаны арабскімі літарамі. На жаль, такіх рукапісных кніг захоўвалася да нашых дзён нязначная колькасць, усяго ў свеце — некалькі соцень. У калекцыі ЦНБ НАН Беларусі — 15 арабаграфічных асобнікаў канца XVII — пачатку XX ст. На некаторых кнігах захоўваюцца імёны перапісчыкаў і былых уладальнікаў. У найстарэйшым рукапісе калекцыі (1686) пазначаны перакладчык — Ур'яш ібн Ісмаіл, імам мусульман горада Мінска.

Адзін з раздзелаў выстаўкі прысвечаны даследаванням кніжнасці татараў Беларусі. Ён пачынаецца з працы першаадкрывальніка пісьменства татараў, ураджэнца Беларусі, прафесара ўсходніх моў Пецярбургскага ўніверсітэта Антона Мухлінскага «Zdanie sprawy o Tatarach litewskich...» («Teka Wileńska», 1858) і заканчваецца публікацыямі сучасных навукоўцаў і каталогамі рукапісаў з дзяржаўных і прыватных калекцый.

Ібрагім Канапацкі шмат зрабіў для вывучэння і захавання рукапісных кніг татараў Беларусі, пры яго дапамозе, кансультацыях былі створаны каталогі «Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў» (1997, Беларускі ўніверсітэт культуры) і «Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (2003).

У экспазіцыі — працы Ібрагіма Канапацкага 1980 — 2005 гг.: манаграфіі, артыкулы ў навуковых зборніках і перыядычных выданнях, матэрыялы шматлікіх навуковых канферэнцый, ініцыятарам і ўдзельнікам якіх быў сам даследчык.

Выклікаюць інтарэс даследчыкаў і ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны, яго манаграфія «Беларускія татары: мінулае і сучаснасць» (1993, у суаўтарстве са Станіславам Думіным) і навучальны дапаможнік «Гісторыя і культура беларускіх татар» (2000, у суаўтарстве з Аляксандрам Смолікам).

Прысвечаны праблемам даследавання культурнай спадчыны татараў матэрыялы 11 міжнародных навукова-практычных канферэнцый па гісторыі і культуры татараў Беларусі, Літвы і Польшчы, праведзеных па яго ініцыятыве і непасрэдным удзеле.

Артыкулы па гісторыі беларускіх татараў і найважнейшыя падзеі ў мусульманскіх краінах надрукаваныя ў часопісе «Байрам», галоўным рэдактарам якога з 1999 года і да апошніх дзён жыцця быў І. Канапацкі. Яго публікацыі змешчаны ў зборніку «Беларусіка=Albaruthenica», на старонках беларускіх часопісаў «Беларуская мінуўшчына», «Кантакты і дыялогі», «Роднае слова» і іншых перыядычных выданнях.

Дарчыя надпісы Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна ды іншых аўтараў розных прафесій і нацыянальнасцей на кнігах з яго асабістай бібліятэкі апавядаюць пра сяброўскія сувязі жыццярадаснага, харызматычнага чалавека, які ўвасобіў лепшыя рысы беларускіх татараў. У экспазіцыі — не толькі кнігі, але і фотаздымкі з асабістага альбома І. Канапацкага, прадметы рэлігійнага культу.

Выстаўка будзе працаваць цягам месяца, да 28 сакавіка, у чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# Алічбаваная гісторыя

Нацыянальная бібліятэка Беларусі падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прэзентавала адразу два вялікія электронныя выданні: «Памятныя кніжкі Гродзенскай губерні» і «Спадчына Юзафа Ігнацы Крашэўскага».

**«Памятныя кніжкі Гродзенскай губерні»** — працяг вялікага праекта па віртуальным аднаўленні помнікаў культуры і гісторыі, у прыватнасці, «Памятныя кніжкі беларускіх губерняў сярэдзіны XIX — пачатку XXI стст». Сам працэс, распачаты ў 2008 годзе, падыходзіць да свайго завяршэння: першыя тры дыскі пра гісторыю і культуру Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў выйшлі яшчэ ў 2011 годзе і былі прэзентаваны падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Чацвёрты дыск, прысвечаны памятным кніжкам Гродзенскай губерні, дапаўняе структуру папяродніх выданняў. Застанецца толькі Віленская губерня, дыск якой, як запэўніў супрацоўнікі НББ, выйдзе сёлета ў сакавіку.

Апошнім часам выданні такога кшталту набываюць папулярнасць у якасці гістарычных крыніц. Сфера іх выкарыстання распаўсюджваецца і на самаадукацыю, асабістыя генеалагічныя пошукі. Дыскі дазваляюць ў падрабязнасцях убачыць карціну жыцця губерняў: дакладныя статыстычныя і фатаграфічныя звесткі пра эканамічнае развіццё, прыродныя ўмовы, склад і заняткі насельніцтва, нарматыўныя прававыя дакументы. Асаблівую цікавасць выклікаюць шматлікія публікацыі па гісторыі, краязнаўстве, археалогіі, этнаграфіі губерняў.

На чацвёртым дыску прадстаўлена поўная электронная калекцыя памятных кніжак Гродзенскай губерні, якія выходзілі з 1847 па 1915 гг. Складанасць у працы над гэтым выданнем заключалася ў тым, што з усіх вядомых кніжак таго перыяду на Беларусі захавалася не больш як палова, большую частку даводзілася шукаць па-за межамі нашай краіны: Масква, Санкт-Пецярбург, Краснаярск, Іркуцк, Адэса і інш. На ўмовах парытэтнага абмену, а таксама на бязвыплатнай аснове некалькі ўнікальных копій было атрымана з бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. Для зручнасці працы з электроннымі калекцыямі быў сфарміраваны даведачны апарат: паказальнік загалоўкаў, артыкулаў і гістарычных дакументаў. Таксама складзены імянны паказальнік аўтараў артыкулаў з кароткімі біяграфічнымі звесткамі. У суправаджальным матэрыяле звесткі пададзены з улікам адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, які існаваў на той час: Лідскі і Ашмянскі паветы ўваходзілі ў склад Віленскай губерні, Кобрынскі і Пружанскі — Гродзенскай губерні.

Для стварэння гісторыка-культурнай канвы падабраны цікавы ілюстрацыйны матэрыял: шматлікія карты, планы гарадоў і Белавежскай пушчы, паштоўкі, ілюстрацыі з альбома літаграфій Напалеона Орды, малюнкі мястэчак, радавых маёнткаў і вядомых дзеячаў таго перыяду. Змешчаны фрагменты музычных твораў кампазітараў XIX стагоддзя, жыццё якіх звязана з Гродзенскай губерняй: Міхаіл Клеафас Агінскі, Станіслаў Манюшка, Напалеон Орда і інш.

Праект **«Спадчына Юзафа Ігнацы Крашэўскага»** яшчэ больш шырокі і шматпланавы. Прысвечаны вядомай асобе XIX стагоддзя — пісьменніку, літаратару, мастаку, музыканту, жыццё і дзейнасць якога звязана з шэрагам краін свету, у тым ліку і з Беларуссю. Ініцыятарам віртуальнай рэканструкцыі спадчыны Ю. Крашэўскага стала Брэсцкая абласная бібліятэка. Партнёрамі, без падтрымкі якіх праект не адбыўся б, сталі Белападляская гарадская бібліятэка (Польшча), Старобінская абласная бібліятэка (Украіна), Музей імя Ю. Крашэўскага ў Раманаве (Польшча) і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Праца распачалася яшчэ ў 2011 годзе, навукоўцамі былі разгледжаны тысячы літаратурных крыніц: Крашэўскі — адзін з самых пладавітых пісьменнікаў XIX ст. (напісаў больш як 600 тамоў!). Апрацаваныя матэрыялы змешчаны на двух дысках. У склад першага ўвайшлі публікацыі пра жыццё і літаратурную дзейнасць Юзафа Ігнацы Крашэўскага, біяграфічныя раманы, у склад другога — электронная калекцыя твораў пісьменніка (публіцыстыка, эпісталярная спадчына), выяўленчае мастацтва, а таксама яго музыка (Крашэўскі быў выдатным кампазітарам). У верасні 2013 года ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт-прысвячэнне Ю. Крашэўскаму. Прагучалі яго творы, а таксама мелодыі яго брата ды іншых кампазітараў таго часу. Запіс канцэрта таксама змешчаны на дыску.

Асноўныя элементы структуры пададзены на чатырох мовах: беларускай, польскай, рускай, украінскай. Спецыяльна для праекта навуковымі супрацоўнікамі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта была напісана манаграфія, якая цалкам увайшла ў гэты праект.

— Перакладаць было вельмі цікава. Нягледзячы на тое, што Крашэўскі нарадзіўся ў Варшаве, дзяцінства ён правёў у Пружанах, — адзначыў перакладчык Міхась Кенька падчас прэзентацыі дыска. — Творца напісаў цыкл гістарычных раманаў пра гісторыю ВКЛ і Польшчы, па якіх у той час вывучалася і нашая гісторыя. Асаблівасць і каштоўнасць гэтага выдання ў тым, што пераклады, якія маюць дачыненне да нашай гісторыі, зроблены ўпершыню. Дзякуючы сучасным тэхналогіям найбольш каштоўныя выданні мінулых стагоддзяў можна перавесці ў электронную форму.

**Таццяна ШЫМУК**

# Женский взгляд

Говорят, книги в квартире бесполезно контролировать. Они сами каким-то загадочным образом находят себе место. Вы замечали, что некоторые издания всё время стоят на полке, а некоторые любят примоститься в уголке или найти себе неожиданное укромное местечко? И сколько бы ни наводили порядок на полках, книги всё время возвращаются на любимые места. Мне кажется, что книги очень избирательно относятся к своим соседям: уживёшься ли на одной полке? Уверена, что с новыми книгами, изданными при поддержке ООО «Харвест», проблемы враждующих соседей не возникнет: они уже успели подружиться, проведя некоторое время на полке у меня. Издания, о которых пойдёт речь, отличаются по жанру, авторскому подходу, целевой аудитории, но… Книги написаны женщинами, однако это не означает, что мужчинам их читать не рекомендуется. Наоборот! А как ещё понять загадочную женскую душу?

## ВЕСТИ ИЗ «ГОРОДА АНЕКДОТОВ»

Ещё знаменитый Леонид Утёсов говорил, что все хотели бы родиться в Одессе, но не всем это удалось. Современная российская писательница Татьяна Соломатина родилась в Одессе! Выросла в популярного автора, рассказала множество женских историй и написала книгу, посвящённую родному городу, такому удивительному и загадочному. Издание **«Мой одесский язык»** сильно отличается от остальных романов писательницы. Здесь нет захватывающей истории, нет обычных соломатинских страстей, но есть её бесконечная любовь к Одессе, а также к особому одесскому диалекту, ставшему знаменитым благодаря ярким персонажам книг, фильмов и бесконечного количества анекдотов.




Несмотря на все положительные черты издания, любители творчества Соломатиной не рекомендуют начинать знакомство с этим автором именно с книги «Мой одесский язык». Издание — почти для посвящённых, для тех, кто уже знает стиль, манеру писателя, а не просто прощупывает почву в поисках нового интересного знакомства. Отсюда и такие противоположные по эмоциональной окраске отзывы. Они варьируются от полного восторга и восхищения до полного непонимания.

В любом случае, книга стоит внимания. Ведь в ней представлена совершенно особая картина мира, где есть море, детство, выступления на площади и знакомые до камешка дорожки к школе. Есть ощущение солнечного света, тепла, есть деревья, которые когда-то были большими. Есть запах свежей рыбы и затейливость одесской речи, страницы давней дружбы и немножко откровений о любви. И жизнь — какой она выглядит в глазах прекрасной женщины и талантливого автора.

## БЕСЕДА ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ




О чём говорят женщины во время своих вечерних посиделок-девичников с подружками за чашкой чая или кофе? О семье и нарядах, о фигуре и новых блюдах, о детях и мужчинах, о новых книгах, фильмах, спектаклях, сериалах, концертах… И всё это обсуждают эмоционально, с ненадуманными эмоциями, стараясь и опытом поделиться, и подругам помочь. Ощущение вот такой тёплой «подружеской» беседы возникает во время чтения новой книги белорусской писательницы Ирины Шатырёнок «Бедная-богатая Валентина…». Издание увидело свет в серии «Библиотека Союза писателей Беларуси». Особое внимание читателя, несомненно, привлечёт повесть, давшая название всему сборнику. Она выделяется из числа других произведений, вошедших в книгу, своим объёмом, актуальной тематикой, по-своему захватывающим сюжетом.

«Бедная-богатая Валентина…» — рассказ о непростой судьбе женщины, вынужденной уехать за границу, чтобы заработать деньги на строительство собственного дома. В Италии, переживая многие невзгоды и лишения, тяжело работая, Валентина получает деньги. Но компенсирует ли условное богатство все потери? На родине у Валентины остаются муж и дочь-школьница. И если Пётр, занятый собственными делами, понимая необходимость такой жертвы, ещё как-то может пережить разлуку с любимой, то для дочери это время потеряно навсегда. Когда-то старательная Юля, отличница в начальной школе, без присмотра, заботы и ласки матери становится ленивой пустышкой. Она с трудом заканчивает 9-й класс и даже не думает о продолжении образования. Её условно «спасает» переезд к матери за границу и начало новой жизни в солнечной Италии. Но станет ли там, в условиях чужой страны и незнакомой языковой ситуации, своей девушка, которой и на родине было не уютно? Не думаю. Вот и получается, что, заработав деньги, начав вместе с мужем собственный бизнес в Италии, вроде «богатая» Валентина всё ещё остаётся «бедной»: без собственного дома, без родственников и, по сути, без дочери.

Такие истории любят рассказывать женщины друг другу. Как водится, все в душе посочувствуют героине повести, но кого-то её судьба подтолкнёт к поискам нового счастья и денег за границей, а кто-то ещё больше внимания будет уделять детям и мужу на родине. Ведь время не вернёшь.

## ЧУДЕСА ПСИХОТЕРАПИИ

Однажды, когда я ещё была старшеклассницей, к нам в школу пришёл корреспондент местной районной газеты и спросил выпускников о профессиях, которые они считают нужными в современном мире. Тогда я без сомнения в числе самых важных назвала работу психолога. Верилось, что психолог призван помогать людям справляться с ежедневными трудностями, выносить непосильные эмоциональные нагрузки, достойно переживать личные трудности. В конце концов, понять и принять себя. Потом эта вера исчезла. Но сейчас, по прошествии более десяти лет, вернулась вновь.

Действительно, работа психолога очень важна в современном обществе. Моей подруге психолог помогла пережить болезненный развод. А положительные отзывы друзей о тренингах я регулярно читаю в ленте новостей Фейсбука. Но что делать, если денег на дорогостоящую терапию нет, а помощь и поддержка специалиста очень нужна? Выход один: читать специальные книги.




К примеру, новую работу практикующего психолога и популярного блоггера **Юлии Рублёвой «Одиночество мужчин»**. Эта книга не только для мужчин и не только для женщин. Она — для всех. Всё дело в том, что большинство людей не знают, какими они кажутся друг другу. «Одиночки» годами живут в страхе, что их отвергнут, не поймут и не примут, и поэтому даже не пытаются общаться с теми, кто им нравится. Знакомо? А сколько ещё в этой книге знакомых вещей, полезных советов, интересных рассказов. Главное, она написана живым языком, о живых — непридуманных — мужчинах и женщинах. Наверное, поэтому книга захватывает внимание с первых страниц и читается не как занудное нравоучение, а как роман: деськать, наблюдайте и делайте выводы, каждый сам для себя.

**Юзефа ВОЛК**

# Сага о сиамах




Её имя стало известно далеко за пределами родной страны. Люди из разных уголков планеты писали стопками письма, отправляли почтой подарки, звонили — словом, делали всё, чтобы быть в курсе событий небольшой английской деревушки Руберроу в графстве Сомерсет. И такой ажиотаж вызывали несколько пар невинных голубых глаз, а точнее, сиамские кошки, странный характер которых смогла постигнуть только одна женщина!..

Английская писательница Дорин Тови родилась 24 октября 1918 г. в городе Бристоль. Родителей девочка практически не знала: мама умерла почти сразу после родов, отец постоянно пропадал в командировках. Воспитанием Дорин занимались бабушка и тетя Луиза, окружив себя и свою воспитанницу множеством различных животных. И нетрудно догадаться, откуда впоследствии у взрослой женщины появится тяга к братьям нашим меньшим. После окончания Второй мировой войны Дорин с мужем Рене, который известен читателям под именем Чарльз, поселяются в деревне, построив прекрасный дом. Вот тут и началась самая знаменитая в мире любовь к кошкам. Дорин Тови стала президентом Клуба Сиамских кошек и Клуба кошек Западной Англии. И она по праву занимала это место, ведь знания писательницы исходили из самой глубины души.

Впервые в книжном мире Дорин Тови появилась с романом «Кошки в колокольне» в 1957 г. Так было положено начало «сиамской саги». А когда эти удивительные создания начали завоёвывать всё большую популярность, они не оставили хозяйке иного выбора, как только продолжать фиксировать их приключения. Вскоре появились новые романы писательницы. Всего Дорин Тови написала 14 романов, из которых на русский язык переведено только 6: «Кошки в доме», «Кошки в мае», «Новый мальчик», «Появление Сесса» и «Новые кошки в доме».

Недавно издательство «АСТ» при поддержке ООО «Харвест» выпустило сборник **«Кошачий переполох»**, куда вошли два последних переведённых романа Дорин Тови. Читателей ждут не только новые сиамские герои и далеко не обычная жизнь деревни Руберроу, но ещё и удивительное приключение в канадском заповеднике.

Путешествие Дорин и Чарльза полно неожиданностей. Они, как самые отважные туристы, готовы на всё ради того, чтобы подойти на безопасно близкое расстояние к диким животным. Тови обладает поразительной способностью высматривать в каждом животном характер. Вот, к примеру, самоуверенный лось, который на глазах у компании туристов преподаст урок дерзкому фотографу. Такой глаз может иметь только человек, который влюблён в Природу. А как жаль писательнице убивать гадюк, поселившихся в опасной близости от её неповторимых сиамов! И совсем не хочется вставлять стекло в гаражное окно из-за возможного возвращения африканских ласточек.

Помимо канадских приключений читателей ждёт не менее увлекательная домашняя жизнь семейства Тови. Наравне с причудами диких зверей за ваши улыбки будут соревноваться Сили, Шебалу, Сесс, Шантун и Сафра. В доме начнутся перемены. Так, в гостиной появится новое развлечение — телевизор, который в равной степени загипнотизирует тётушку Этель и двух ангелочков — Шебалу и Сили.

Животные для Дорин Тови не просто питомцы, это её семья! В любви равенства нет, подтверждают герои Тови. Разве можно говорить о равенстве, когда эти чудесные милашки так быстро смогли подчинить хозяйку своим абсолютным желаниям? Во всём «виновата» яркая личность, которую писательница находит в своих подопечных. И нам остаётся ещё раз признать, что сиамы — не простые кошки. Книги Дорин Тови предназначены для широкого круга читателей, они подходят как взрослым, так и подросткам. И даже те, кто безразличен к животным, не смогут не признать притягательности и силы сиамского характера.

**Виктория ТРИПУТИНА**

## Адначаснікі



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Да сваіх берагоў

Сёння яна часам падпісваецца псеўданімам Алена Шаціла, друкуецца хоць нячаста, але яе эсэ і пераклады вызначаюцца высокім густам, грунтоўнасцю.

А ў далёкія сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя яна з'явілася на пасяджэнне літаб'яднання «Наддзвінне» пры полацкай газеце «Сцяг камунізма» з вершамі, якія адразу прыцягнулі ўвагу сваёй свежасцю і арыгінальнасцю.

Да гэтага часу звіняць у памяці яе ўсхваляваны голас і радкі:

*«Мне в лицо другие ветры дули,*
*Я ходила по чужой земле,*
*Но верна осталась той зязюле,*
*Что когда-то насулила лет*
*Мне счастливых...»*

Пасля, надрукаваныя на старонках нашай газеты, гэтыя радкі выклікалі пільную ўвагу кампетэнтных органаў, бо заяўлялі пра другія вятры і чужую зямлю ў той час і ў такім горадзе, як Полацк...

А тлумачыліся паэтычныя строфы Алены Паўлаўны фактамі яе асабістай біяграфіі: яшчэ студэнткай выйшла замуж за паляка, які стаў неўзабаве прафесарам універсітэта ў Варшаве, выехала з ім у братнюю тады краіну, нарадзіла сына і жыла, пакуль нейкая неадольная сіла не пацягнула яе на радзіму — у Беларусь.

Вяртанне аказалася няпростым. Падазрона прыглядаліся да маладой выкладчыцы кааператыўнага тэхнікума, якая яшчэ і вершы пісала.

А тут яна яшчэ завязала перапіску з народным пісьменнікам Янкам Брылём... Дарэчы, Іван Антонавіч пазней часта ўзгадваў сваю полацкую карэспандэнтку, апекаваўся яе вершамі, з якімі выступіла Алена Ніякоўская тады на старонках «Нёмана».

Гэта яшчэ больш дадало ёй аўтарытэту сярод полацкіх літаратараў, ды і што граху таіць — зайздрасці і непрыязі.

Гордая, незалежная, Алена Паўлаўна выклікала ў мяне павагу і сімпатыю. Але розніца ва ўзросце, а мне тады было ўсяго дваццаць гадоў, не давала нам магчымасці зблізіцца, і ў яе прысутнасці я заўсёды сябе адчуваў нясмелым вучнем.

Цяжка было тады ўявіць, што праз шмат гадоў яна мне прапануе быць на «ты», пачне пісаць пра мае вершы і нават перакладаць іх на польскую мову, а з яе сынам, які стане старшынёй Наваполацкага гарвыканкама, нас будуць звязваць дзелавыя стасункі.

На нейкі час Алена Паўлаўна з майго поля зроку знікла. А сустрэліся мы зноў ужо ў Наваполацку, калі я стаў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё, а яна выкладала філасофію ва ўніверсітэце.

Аказваецца, за час, пакуль мы не бачыліся, жанчына перакваліфікавалася з філолага ў філасофа, абараніла дысертацыю.

Не ведаю, ці паспрыяла таму наша новая сустрэча, але паважаная і вядомая ў горадзе выкладчыца зноў пачала вяртацца да літаратуры і, што немалаважна, да беларускай мовы. І той покліч Бацькаўшчыны, які прымусіў у маладосці кінуць шчаслівае замежнае жыццё, здаецца, знайшоў свой лагічны працяг.

І хочацца верыць, што яе няпросты лёс і надалей будзе сагрэты цеплынёй і спагадай нашай любай зямлі і блізкіх ёй людзей.



## Маладзічок

# Разумець, давяраць

Хлебам-соллю сустракалі госця з Расіі ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 4. Падчас XXI Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу тут адбылася творчая сустрэча з вядомым пісьменнікам і публіцыстам, аўтарам больш як 60 кніг для дзяцей Валерыем Васкабойнікавым. Загадчыца бібліятэкі Людміла Бусел і загадчыца сектара аддзела абслугоўвання Наталія Отчэская пазнаёмілі В. Васкабойнікава са сваёй «гаспадаркай». А паказаць, як і здзівіць, было чым. У чытальнай зале размясцілася стылізаваная беларуская хатка. Менавіта тут супрацоўнікі бібліятэкі далучаюць маленькага чытача да багацця беларускасці.

Фольк-гурт «Мілавіца», што працуе пры цэнтры дадатковай адукацыі «Ветразь», прадэманстраваў, як адпачывалі ў недалёкім мінулым нашы продкі. Пасля такой сустрэчы шаноўнага госця імпрэза прайшла цёпла і добразычліва.

Дзіцячы пісьменнік распавёў пра незабыўныя моманты біяграфіі. У чатыры гады ён разам з маці апынуўся ў эвакуацыі на Урале. Маці ўвесь час працавала, цацак не было. Каб нечым заняць дзіця, яму давалі газету, а ён яе перапісваў. Так нарадзілася мара стаць пісьменнікам.

Як чалавек глыбокі і ўдумлівы, Валерый Міхайлавіч прапанаваў паразважаць над прызначэннем у жыцці: «Кім бы мы ні былі — пісьменнікамі, вадаправодчыкамі ці пастухамі, галоўная наша справа — перадаваць у будучыню дабро. Усе мы розныя людзі, але пераплецены ў адзінае чалавецтва».

З лёгкім гумарам адказваў пісьменнік на пытанні, якія датычылі сучаснай моладзі і яе адказнасці перад часам: «Яшчэ чатыры тысячагоддзі таму філасофы, пра што сведчаць старажытныя трактаты, скардзіліся на нядбайную моладзь, якая не паважае старэйшых, сноўдаецца па дварах і не дбае пра вучобу».



Ніхто са слухачоў не спяшаўся пакінуць залу, хаця час сустрэчы скончыўся. Так, дзяцей немагчыма падмануць. І калі пісьменнік укладвае ўсяго сябе ў свае творы, калі гэта праца розуму і сэрца, тады і адбываецца цуд разумення і даверу.

**Іна ФРАЛОВА**

# Казкі і таямніцы

Заключны дзень кніжнай выстаўкі распачаўся прэзентацыяй кніг пісьменнікаў Алега Ждана, Анатоля Бутэвіча, Сяргея Трахімёнка, якія пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда». А. Ждан узгадаў сваю творчую біяграфію і распавёў пра гістарычную трылогію «Князь. Государыня. Епископ», дзе галоўным месцам дзеяння з'яўляецца Мсціслаў — родны горад пісьменніка.

Шмат слухачоў сабраў А. Бутэвіч, выступленне якога было прысвечана малавядомым падзеям беларускай гісторыі. Пісьменнік згадаў цікавыя факты з жыцця Вітаўта і Ягайлы, пане Каханку і Магдалены Радзівіл. Ці быў Ягайла каталіком? Чаму ён ажаніўся з Соф'яй Гальшанскай у Навагрудку? Калі і для каго Нясвіж з'яўляўся сталіцай? Вынікам захаплення беларускай гісторыяй стаў раман «Каралева не здраджвала каралю» і дакументальная кніга «Паміж княствам і каронай», дзе змешчаны не толькі пералік дат і падзей эпохі Сярэднявечча, але і легенды, народныя паданні. А. Бутэвіч таксама прэзентаваў выданні, прысвечаныя таямніцам беларускіх замкаў: Мірскага, Нясвіжскага, Крэўскага, а на чарзе — Гальшаны... Паводле творцы, у беларускай гісторыі багата пакручастых сюжэтаў, кожны з якіх можна распрацаваць у займальны гістарычны твор.

На наступнай сустрэчы маленькія чытачы пазнаёміліся з аўтарамі кніг для дзяцей, якія сёлета пабачылі свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Яніна Жабко чытала вершы з новай кнігі «Россыпь чудес», Уладзімір Кулічэнка прадставіў трылогію «Интернет-мальчик», «Интернет-сыщик» і «Интернет-солдат», дзе не толькі адкрываецца свет прыгод, але і ўтрымліваецца пазнавальная інфармацыя, якая дапаможа чытачам навучыцца працаваць з камп'ютарам і інтэрнэтам. Андрэй Жвалеўскі распавёў пра фантастычную аповесць «Время всегда хорошее», напісаную разам з Яўгеніяй Пастэрнак, і шчыра падзякаваў дырэктару выдавецтва Ліліяне Анцух за сумесную працу: «Выдаўцы часта спасылаюцца на розныя праблемы і ўхіляюцца ад працы з маладымі аўтарамі, але час заўсёды аднолькавы, і гэта вельмі важна — даць магчымасць выйсці новай кнізе». Зрэшты, да ўзаемнай радасці, аповесць стала бясспрэчна паспяховым праектам.

Падчас прэзентацыі зборніка казак «Фабрика хорошего настроения» малады пісьменнік і прафесійны музыка Дзмітрый Саўчык адказваў на пытанні наведвальнікаў і чытаў свае творы. Разам з класічнымі казкамі аўтар шануе «Уладара пярсцёнкаў» і «Гары Потэра», а сам любіць пісаць кароценькія казкі для маленькіх чытачоў.

Акампанементам гэтага дня сталі песні ў выкананні С. Трахімёнка і маленькай унучкі Яніны Жабко.

Усе ж, хто не паспеў набыць кнігі падчас выстаўкі, могуць зрабіць гэта на Захарава, 19.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Мова — вялікая сіла

**Падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу на стэндзе Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Адзінства — Айчына» адбылася прэзентацыя кнігі айца Уладзіміра Башкірава «На шляху да Бога: Слава Табе, хто паказаў нам Свет».**

Выданне стала лаўрэатам у намінацыі «Асветніцтва праз кнігу-2013» на Адкрытым конкурсе выданняў у Маскве. Да выхаду ў свет практычна гатовая і другая частка. Абедзве грунтуюцца на гадавым цыкле хрысціянскіх свят, пачынаючы з Раства Хрыстова.

Айцец Уладзімір Башкіраў — протаіерэй, служыцель прыхода У Славу Усіх Святых, загадчык кафедры багаслоўя Інстытута тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла (БДУ), прафесар Мінскай духоўнай акадэміі, доктар багаслоўя. Менавіта з матэрыялу доктарскай дысертацыі склаўся метадалагічны і навуковы апарат кнігі. Але не трэба думаць, што размова ідзе пра цяжкачытэльны трактат: кніга айца Уладзіміра абапіраецца на старажытную традыцыю гамілетыкі, асветніцкай пропаведзі — Божага Слова, якое ідзе ад сэрца да сэрца.

Аўтар перакананы, што асновы хрысціянскага веравызнання не падлягаюць інтэрпрэтацыям з мэтай крытыкі або перагляду, але іх неабходна данесці да сучасніка на зразумелай яму мове, у простай гаворцы і ў кантэксце наяўных грамадскіх праблем. «Ніякая эпоха, — чытаем у Прадмове, — не здолее абысціся адно толькі «класікай» багаслоўскай спадчыны, не прапануючы свой спосаб яе




разумення». Але ж духоўнай спадчыне мінулага (хрысціянскім першакрыніцам) павінен належаць прыярытэт тлумачэння нашых праблем — большасць іх, толькі названыя інакш і ў іншых гістарычных умовах, ужо былі актуальныя калісьці. Менавіта таму Іаан Златавуст, Грыгорый Палама, Кірыла Тураўскі, Іаан Кранштацкі і многія іншыя мысляры даўняга і нядаўняга мінулага гавораць з намі зразумелай менавіта нам мовай.

Ажыццяўленне нешараговай мэты не магло не абапірацца на такі ж творчы, нават унікальны, падыход. Як, захаваўшы нескажоным Святое Паданне Царквы, захаваўшы багаслоўскі панаційны апарат, які складваўся на працягу стагоддзяў, падрыхтаваць масавае, папулярнае (у станоўчым сэнсе) выданне? Вызначальную ролю павінна была адыграць кампазіцыя.

Аўтар ідзе ад простага да складанага. У дасціпнай форме распавядае пра тыя ці іншыя хрысціянскія святы (як пра тыя, што набылі свецкі характар, так і пра святы «выключна» царкоўныя — дні пашаны святых, даты памяці евангельскіх падзей), а потым разгортвае інфармацыю ў падрабязны каментарый. Чытачу прапанаваныя рознага кшталту ўдакладненні, гістарычныя звесткі і прыклады, а галоўнае — цытаты з першакрыніц. Перакладзеныя аўтарам з польскай, англійскай, нямецкай і царкоўнаславянскай мовы, яны часам упершыню ўводзяцца ва ўжытак руска- і беларускамоўных вернікаў. У выніку перад намі сапраўды інтэртэкст з усімі яго функцыямі, сярод якіх для пропаведзі найбольш значныя камунікатыўная (стварэнне ўражання, што чытач самастойна набліжаецца да разумення) і правакатыўная (выклік шукаць і знаходзіць новую і новую інфармацыю, усведамляючы тую ці іншую праблему як мага больш шматгранна).

Прыемна, што на дыялогу будзе грунтавацца трэцяя кніга цыкла, матэрыял якой практычна падрыхтаваны да друку. Гэта будуць гутаркі на духоўна-маральныя тэмы: сям'я, выхаванне дзяцей, бацькі ў ролі выхавацеляў, цнатлівасць, дашлюбныя стасункі, змешаныя шлюбы, заганы (алкагалізм, наркаманія і г. д.). Увага прыцягнутая таксама да таінстваў царквы: хрэсьбінаў, пакаяння, споведзі, прычасця.

Відавочна, што гэты цыкл кніг (наяўнай, гатовай да друку і да друку падрыхтаванай) — праца не аднаго дзесяцігоддзя, фактычна — амаль паловы стагоддзя. Айцец Уладзімір прыгадвае, як напрыканцы 1970-х гадоў, калі ён толькі пачынаў пастырскае служэнне, да яго звярнулася старая прыхаджанка: «Бацюшка, людзям сёння вельмі спадабалася ваша пропаведзь!..» — «Сапраўды? А чаму?» — «Я чула размову: «Ой, як жа ж бацюшка добра сёння казаў!..» — «А пра што?» — «Хіба ж зразумела, пра што, але затое гучна і складна». Малады айцец Уладзімір зразумеў тактычны ўрок: жанчына мела на ўвазе, што вучыць людзей — патрэбны і пачэсны занятак, але трэба рабіць гэта даходліва і проста. Той выпадак, успамінае аўтар, стаў штуршком да яго клопату пра даходлівае і дзейснае пастырскае слова.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# На скрыпічным небасхіле

**Музыкант, адораны настолькі, што ўжо ў шаснаццацігадовым узросце стаў артыстам Беларускага дзяржаўнага аркестра. Скрыпач, вядомы сваёй яркай індывідуальнасцю і вялікімі тэхнічнымі магчымасцямі. Канцэрт да 85-годдзя з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Льва Гарэліка адбыўся 23 лютага ў межах праекта «Музычныя вечары ў Вялікім».**



Леў Давідавіч нарадзіўся ў 1929 годзе ў шматдзетнай сям'і рамізніка. Займаўся ў музычнай школе Бабруйска. Заўважыўшы здольнасці, бацькі паказалі сына загадчыку кафедры скрыпкі Маскоўскай кансерваторыі, прафесару А. Ямпольскаму. Хлопчык паспяхова скончыў у 1945 годзе Цэнтральную музычную школу, але з-за хваробы вярнуўся ў Беларусь, дзе пасля выздараўлення пачаў аваладваць сакрэтамі майстэрства ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

З 1956 года да апошніх дзён жыцця Леў Гарэлік быў канцэртмайстрам і салістам сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — яго «першай скрыпкай». Калі скрыпку называюць каралевай аркестра, то Леў Давідавіч, несумненна, быў яго каралём. Высакароднасць гучання інструмента, выканальніцкае майстэрства і тонкі музычны густ зрабілі Л. Гарэліка самай яркай зоркай на скрыпічным небасхіле Беларусі другой паловы XX стагоддзя. Ён быў настаўнікам усіх айчынных струннікаў, нязменным памочнікам дырыжораў у разборы складаных партытур, яго найтанчэйшы слых улоўліваў нават самыя дробныя хібы ў гучанні.

Гады актыўнай канцэртнай дзейнасці Льва Гарэліка адзначаны сапраўдным узлётам беларускай скрыпічнай музыкі. Маэстра выконваў творы Анатоля Багатырова, Рыгора Пукста, Пятра Падкавырава, Генрыха Вагнера, Эдзі Тырманд, Яўгена Глебава, Дзмітрыя Смольскага, Рыгора Суруса, Кіма Цесакова, Андрэя Мдзівані, Галіны Гарэлавай, Валерыя Карэтнікава, Ніны Усцінавай і многіх іншых. Першы са скрыпачоў звярнуўся да твораў Міхаіла Ельскага.

Паводле яго калегі, дырыжора Т. Каламійцавай, Леў Гарэлік быў з ліку тых музыкантаў, якія «нарадзіліся разам з інструментам». У яго выкананні не было ніякай манернасці і напышлівай прыўзнятасці. Скрыпач аб'ездзіў з канцэртамі шмат краін. Ён узяў за правіла заўсёды, незалежна ад часу і абставін, выконваць для замежных слухачоў як беларускія сачыненні, так і творы аўтараў краіны-гаспадыні. Так склаўся яго велізарны і шматстылёвы рэпертуар — ад еўрапейскіх класікаў да музыкі малых народаў.

У канцэртнай праграме 23 лютага «У музыкі ў палоне» у розных ансамблевых спалучэннях прагучалі творы, якія любіў і часта выконваў Леў Гарэлік. На сцэну Камернай залы імя Л. П. Александроўскай выйшлі калегі музыканта — артысты аркестра тэатра, якія мелі гонар з ім працаваць, а таксама маладыя музыкі, для якіх яго імя застаецца сімвалам прафесіянальнага майстэрства: заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Рэгіна Саркісава (скрыпка), Ганна Захарава (скрыпка), Аляксей Паляўнічых (скрыпка), Уладзімір Купрыянаў (альт), Мікалай Чарнуха (альт), лаўрэат міжнароднага конкурсу Аляксей Афанасьеў (віяланчэль), Ларыса Ласоцкая (флейта), уладальнік медаля Францыска Скарыны Аляксей Вакуленка (кларнет), Дзяніс Парэчын (кларнет), Ігар Галінскі (валторна), ансамбль ударных пад кіраўніцтвам Уладзіміра Судноўскага, лаўрэат міжнароднага конкурсу Святлана Колас-Іванова (фартэпіяна); салісты оперы — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Юрый Гарадзецкі (тэнар) і Ілья Сільчукоў (барытон).

У гісторыі беларускай культуры Леў Гарэлік застанецца вялікім падзвіжнікам, які першым выканаў амаль усе скрыпічныя творы сучасных яму беларускіх кампазітараў. Ён сур'ёзна браўся за цяжкую працу першага выканання, ад якой залежаў далейшы лёс і новых твораў, і іх маладых аўтараў. Сам факт існавання такога таленавітага, высокапрафесійнага музыканта стымуляваў стварэнне санат, канцэртаў, мініяцюр для скрыпкі. Кажуць, у доме Льва Давідавіча цэлую паліцу займалі прысвечаныя яму творы! За пераканаўчае і майстэрскае выкананне сачыненняў скрыпачу былі ўдзячны М. Аладаў, П. Падкавыраў, Г. Гарэлава, Р. Сурус, Д. Смольскі — кампазітары, якія знайшлі ў Л. Гарэліку лепшага на Беларусі інтэрпрэтатара сучаснай музыкі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Горад мастакоў

**Малюнкі, якія «жывуць» на дамах Варшавы і Тбілісі, «дыхаючы» вольным паветрам вуліц, «прыехалі» ў беларускую сталіцу. Выставачны праект «Стрыт-арт», арганізаваны пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску, стартаваў 18 лютага ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.**

Экспазіцыя складаецца з вулічных карцін непрафесійных і невядомых творцаў. «Выставачныя працы размешчаны на пап'е-машэ, каб дасягнуць падабенства са звычайнай тынкоўкай гарадскіх сцен, наблізіць малюнкі да рэальнасці. Яны існуюць на вуліцы і цяпер. Я і мой сябра Габрыэль Кайзер толькі «знялі» іх з муроў з дапамогай фотафіксацыі», — паведаміў арганізатар і збіральнік выстаўкі Віктар Кшыштапорскі.

Усе творы выкананы ў тэхніцы трафарэта, самай лёгкай у стрыт-арце. Трафарэты (альбо стэнсілы), якія можна зрабіць за пару хвілін з паперы ці кардону, дазваляюць хутка наносіць малюнкі і надпісы на розныя паверхні. Прылада ўяўляе сабой невялікі ліст з выразанымі сегментамі — контурамі будучага малюнка.

Праект Віктара Кшыштапорскага, да якога, дарэчы, далучылася яго жонка, дырэктар Польскага Інстытута ў Мінску Уршуля Дарашэўска, быў распачаты два гады таму. Сёння калекцыя складае каля 4800 трафарэтаў. На выстаўку трапілі толькі самыя характэрныя з іх, прычым пазбаўленыя палітычнай альбо гістарычнай тэматыкі.

«Падабаецца вам гэта ці не, але трафарэты ўжо «ўраслі» ў гарадскі пейзаж. Свабодныя творцы выказваюцца проста і лагічна. У адрозненне, напрыклад, ад рэкламы. Ніхто ж не пытаецца ў жыхароў, патрэбна яна ім ці не. Вось маладыя людзі і вырашылі, што таксама могуць пакінуць свой подпіс там, дзе яго ўбачаць іншыя. Гэта своеасаблівая канфрантацыя. Але яна мае сваю каштоўнасць», — падкрэсліў Віктар Кшыштапорскі.

Жывапісец, прадстаўнік Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў лічыць, што магчымасці ў стрыт-арту ёсць і ён мае права на існаванне: «Стрыт-арту ўласціва форма падачы, блізкая да канцэптуальнага мастацтва. Малюнкі, якія можна пабачыць на выстаўцы, — не проста роспісы на сцяне, хуліганства ці праява абсалютнай свабоды». Сапраўды, райтар не дэкларуе канкрэтныя тэмы, не абмяжоўвае сябе, ён адлюстроўвае ўсё, што заўгодна. Але, як і прафесійны мастак, мае выразную пазіцыю і ўласнае меркаванне. «У мяне вельмі аптымістычны погляд на ўсё, што свабодна адбываецца па-за межамі прафесійнага жывапісу. Мы заўсёды спрабуем разбурыць пабудаваныя сваімі ж рукамі рамкі, прыходзячы да пытання: дзе новая кропка адліку для сучаснага мастацтва?» — дадаў Леанід Хобатаў.

Супрацоўнік музея сучаснага выяўленчага мастацтва Каміла Янушкевіч займаецца кірункам стрыт-арту даволі даўно і таксама мае свой цікавы погляд: «Чалавеку складана прамаўляць ад свайго імя. Дайце яму маску — і ён выдасць усю праўду. Гэта мае прамое дачыненне да стрыт-арту. Нам ніколі не ўдасца паглядзець на твар мастака ўдзень. Ён малюе, як правіла, ноччу, як ваўкалак, перастварае сваю сутнасць і ідзе бамбіць».

Каміла Янушкевіч лічыць, што вулічныя карціны — не проста подпісы на дамах ці ў пад'ездах, а штосьці больш духоўнае, філасафічнае, таму што стрыт-арт, нібы ў люстэрку, паказвае ўсё, што адбываецца ў жыцці грамадства. Сапраўды, мастакі, якіх звычайны глядач нават і не ведае, маюць каштоўную рысу — неабыякавасць да рэчаіснасці.

У музеі сучаснага выяўленчага мастацтва на пачатку сакавіка плануецца майстар-клас з удзелам аўтараў выстаўкі «Стрыт-арт», дзе кожны здолее крышачку «павандаліць» ці паспрабаваць сябе ў ролі сапраўднага мастака. Усё будзе залежаць ад вас.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Вандроўкі над зямлёй

**У Інстытуце тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адкрылася выстаўка «Над зямлёй», якая будзе працаваць да 4 сакавіка. Экспазіцыю складаюць пейзажы і нацюрморты маладога беларускага мастака Васіля Пешкуна.**





Незвычайныя пейзажы, на некаторых з якіх я ўбачыла знаёмыя мясціны Мінска, прасякнуты цеплынёй і святлом: мастак падаецца вельмі пазітыўным і энергічным!

Уражвае яго дар бачыць незвычайнае ў самым надзённым. І адразу становіцца зразумелай назва выстаўкі: «Над зямлёй» — г. зн. не толькі бачыць штосьці звысоку, але і заўважаць тое, што не відаць іншым. А вось як тлумачыць назву сам аўтар: «Экспазіцыю складае шмат карцін з выявамі цэркваў. Мне падабаецца іх маляваць — архітэктура заўсёды выдзяляецца з агульнай масы. Калі пішу такія пейзажы, то быццам луняю над зямлёй. Малюю ў асноўным з натуры, дзеля гэтага часта езджу па розных гарадах Беларусі. Вельмі падабаецца і Суздаль – аж тры разы пабываў!»

Урбаністычныя пейзажы і выявы цэркваў, прадстаўленыя на выстаўцы, ствараюць цікавы кантраст «духоўнае — людское»: «Суздальскі падворак», «На Нямізе», «Царква Пятра і Паўла» і інш.

За плячыма мастака шмат выставак (з іх больш як 10 персанальных), карцін, ганаровая ўзнагарода — медаль «Талент і прызванне» Сусветнага дабрачыннага альянса «Міратворац». Васіль з'яўляецца членам Беларускага саюза мастакоў, а яго працы захоўваюцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, ЗША, Ізраіля, Японіі, Італіі і Францыі, іх можна пабачыць таксама ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і Музеі сучаснага рускага мастацтва ў ЗША, у беларускім пасольстве Венгрыі.

Калі з'явілася жаданне натхніцца творчасцю таленавітага земляка або зірнуць на родныя мясціны па-новаму, вачыма мастака, які блукае «над зямлёй», тады гэтая выстаўка — для вас!

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

28 лютага 2014 г.

# Славутыя імёны ў гісторыі дзяржавы

**Выстаўка пад такой назвай працуе ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Беларусі. Экспазіцыя прысвечана 130-гадоваму юбілею Антона Луцкевіча, вядомага палітычнага, грамадскага і культурнага дзеяча, гісторыка, публіцыста, літаратурнага крытыка, лінгвіста, выдаўца.**




Публікацыі ў перыядычным друку, прыжыццёвыя выданні А. Луцкевіча, якія прадстаўлены на выстаўцы, раскрываюць шматгранную творчую асобу. Важкі ўнёсак зроблены ў развіццё літаратуразнаўства. У працы «Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі», размешчанай у выданні «Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства» (1933), аўтар робіць агляд паэзіі, акцэнтуе ўвагу на напрамках яе развіцця. Літаратуразнавец адзначае яркую і самабытную творчасць Янa Баршчэўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых.

У паэзіі Максіма Багдановіча Антон Луцкевіч вылучае меладычнасць, эстэтычную дасканаласць твораў, якія значна ўзбагацілі айчынную літаратуру новымі вершаванымі формамі. У сваіх даследаваннях аўтар падкрэслівае, што беларуская літаратура развіваецца ў агульнаеўрапейскім кантэксце, таму многія працэсы ў яе гісторыі з'яўляюцца заканамернымі і зразумелымі.

Антон Луцкевіч друкаваў свае працы пад уласным прозвішчам, а таксама пад псеўданімамі і крыптонімамі. У экспазіцыі прадстаўлены шэраг матэрыялаў, якія гэта адлюстроўваюць. Адзін з вядомых псеўданімаў аўтара — Антон Навіна. Гісторыя яго ўзнікнення звязана з радавым шляхецкім гербам «Навіна».

Асобным блокам вылучаны выданні, дзе змешчаны працы сучасных даследчыкаў творчасці Антона Луцкевіча. Сярод іх — «Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» (2001); пад адной вокладкай сабраны матэрыял з яго творчай спадчыны ў кнізе «Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва» (2006) і інш. Дзейнасць гэтага таленавітага творцы яшчэ вывучаецца, даследуецца, што спрыяе больш поўнаму асэнсаванню цярністага жыццёвага шляху і яркага творчага лёсу А. Луцкевіча.

**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ,
галоўны бібліятэкар аддзела старадрукаваных і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**

# Гумар на мальберце

**На пачатку лютага ў сталічнай бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога адбылося адкрыццё экспазіцыі сумеснай выстаўкі часопіса «Вожык» і газеты «Звязда» пад назваю «Першакрасавіцкі мікс»: карыкатуры, гумарыстычныя малюнкі вядомых мастакоў-карыкатурыстаў «Вожыка» і гумарыстычныя фотаздымкі фотакарэспандэнта «Звязды» Анатоля Клешчука.**

Выстаўка ўпершыню экспанавалася летась у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь напярэдадні Дня смеху, затым яе пабачылі чытачы некалькіх сталічных бібліятэк.

Шматлікія госці — навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі і вучні сталічнай гімназіі № 41 імя В. Х. Сярэбранага — змаглі азнаёміцца з выстаўкай і пагутарыць з галоўным рэдактарам часопіса «Вожык» Юліяй Зарэцкай, намеснікам галоўнага рэдактара Аляксандрам Каршакевічам і даўнім аўтарам выдання, лаўрэатам прэміі імя Кандрата Крапівы Сяргеем Волкавым.

Юлія Зарэцкая распавяла прысутным пра гісторыю часопіса, знакамітых творцаў — пісьменнікаў і мастакоў, «вожыкаўскую» школу карыкатуры. Аляксандр Каршакевіч і Сяргей Волкаў (выстаўкі іх работ таксама праходзілі ў Міністэрстве інфармацыі) падзяліліся меркаваннямі пра беларускую карыкатуру.

Сяргей Волкаў — вядомы мастак, член Беларускага саюза мастакоў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Аўтар больш як ста сатырычных плакатаў, серыі сяброўскіх шаржаў на мастакоў і пісьменнікаў, а таксама шматлікіх карыкатур. Яго работы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва... Сяргей Анатольевіч распавёў пра цікавыя факты з жыцця і творчасці вядомых мастакоў-карыкатурыстаў Д. Красільнікава, А. Чуркіна, М. Гурло, В. Ціхановіча і іншых, пра бацьку Анатоля Волкава, знакамітага графіка і жывапісца, вядомага больш за ўсё сваімі ілюстрацыямі да кніг беларускіх і расійскіх пісьменнікаў, а таксама карыкатурамі. У 1944 — 1945 гг. ён працаваў у вядомай газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», а пазней, да апошніх дзён свайго жыцця — у часопісе «Вожык». Менавіта дзякуючы А. Волкаву фарміравалася мастацкае аблічча папулярнага ў рэспубліцы часопіса.

Аляксандр Каршакевіч пазнаёміў навучэнцаў і школьнікаў з сённяшнім мастацкім абліччам «Вожыка», зазначыў, што карыкатуры, якія друкуюцца на яго старонках, надзвычай разнастайныя па тэмах, стылі, тэхніцы выканання. І запрасіў усіх, хто адчувае ў сабе сатырычны талент, абавязкова звяртацца ў «Вожык», дзе маладых аўтараў заўсёды падтрымаюць, дадуць прафесійныя парады і — надрукуюць.

Тым часам Сяргей Волкаў, стоячы каля мальберта, намаляваў адмысловага Вожыка. Будучыя творцы з задавальненнем пакінулі на плакаце свае аўтографы. Можа, іх карыкатуры неўзабаве з'явяцца ў «Вожыку», а яны з часам стануць знакамітымі мастакамі-карыкатурыстамі? Пабачым!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Сэрцам дакрануцца

З нагоды юбілею славутага земляка, класіка беларускай літаратуры Аркадзя Куляшова Магілёўская абласная бібліятэка прапанавала шэраг мерапрыемстваў.

Для ўсіх зацікаўленых у папулярызацыі жыцця і творчасці паэта прапануецца пакет інфармацыйна-рэкламных матэрыялаў, распрацаваных аддзелам маркетынгу і бібліятэказнаўчай работы, які складаецца з метадычных парад, электроннага рэсурсу (мультымедыйныя прэзентацыі, аўдыя- і відэаматэрыялы, фотадакументы і г. д.), плакатаў, буклетаў.




На працягу года ў бібліятэцы будуць дзейнічаць кніжныя выстаўкі. У аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры — кніжна-ілюстрацыйная экспазіцыя «Волат беларускай паэзіі», якая прадстаўляе творчую спадчыну паэта (цяпер у фондах налічваецца 69 экзэмпляраў кніг А. Куляшова), у тым ліку рэдкія выданні — «У зялёнай дуброве» (1940), «Прыгоды цымбал» (1945), фотадакументы і літаратуразнаўчыя матэрыялы. У Музейным пакоі гісторыі кнігі і бібліятэкі — юбілейная персанальная выстаўка «Паміж наступным і былым», у аснову якой пакладзены архіўныя дакументы і матэрыялы пра жыццё і творчасць А. Куляшова з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

На сайце бібліятэкі размешчана віртуальная выстаўка «Сэрцам да подзвігу дакраніся», падрыхтаваная аддзелам інфармацыйных рэсурсаў і адрасаваная шырокай чытацкай аўдыторыі, у тым ліку замежным карыстальнікам.

Гісторыка-краязнаўчы клуб «Спадчына» пры аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры зладзіў літаратурна-музычную кампазіцыю «Планета Куляшова» для навучэнцаў Магілёўскага дзяржаўнага абласнога ліцэя № 3 і чытачоў бібліятэкі. Падчас імпрэзы прысутныя пазнаёміліся з багатай творчай спадчынай слыннага земляка. Адбылася прэзентацыя біябібліяграфічнага паказальніка «Пясняр свайго часу» — першага выдання ў мясцовай краязнаўчай бібліяграфіі, якое падрыхтавалі супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры, каб найбольш поўна адлюстраваць шматгранную дзейнасць паэта.

Паказальнік уключае інфармацыю пра больш як 800 дакументаў за 1926 — 2013 гг. на беларускай, рускай, украінскай, польскай, літоўскай, іспанскай, румынскай мовах з фондаў Магілёўскай абласной бібліятэкі і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэта кнігі, артыкулы са зборнікаў, часопісаў, газет, а таксама ноты, гуказапісы, фотадакументы, выяўленчыя матэрыялы, згрупаваныя па тэматычных раздзелах. Выданне адрасавана літаратарам, настаўнікам, краязнаўцам, навучэнцам, аматарам літаратуры, а таксама бібліятэкарам для падрыхтоўкі мерапрыемстваў па творчасці А. Куляшова, папаўнення каталогаў і картатэк.

**Тамара КАЛІНІНА,
загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Галерэя мастакоў

Галерэя імя Марыі Карпаўны і Валянціна Серафімавіча Ягоравых адкрылася ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна. Патрэба ў месцы, дзе можна было б прадставіць творчасць жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Гомельшчыны, адчувалася даўно. Рэалізацыі праекта спрыяў выхад у свет кнігі-альбома «Споведзь у фарбах», прысвечанай знакамітым мастакам і пачаткоўцам. Аўтар — Алег Ананьеў, намеснік дырэктара па рэкламе і сувязях з грамадскасцю Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі, член Беларускага саюза мастакоў і Саюза пісьменнікаў Беларусі — прэзентаваў выданне падчас адкрыцця галерэі.

Праз лёс мастакоў Ягоравых можна прасачыць гісторыю нашай краіны. Творчасць бацькоў, якія адышлі ў нябыт, прадставіў іх сын Ігар — таксама мастак, які жыве і працуе ў Мінску.

З'яўленне галерэі паўплывае на пашырэнне цікавасці гамяльчан да мастацкай спадчыны суайчыннікаў.

Супрацоўнікі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі пастаянна арганізуюць персанальныя і тэматычныя выстаўкі, каб пазнаёміць жыхароў і гасцей абласнога цэнтра з дасягненнямі сучасных мастакоў. У творчых планах — пашырыць выставачную залу галерэі і стварыць музей выяўленчага мастацтва Гомельшчыны.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Аўтар «Полацкага месячніка»

Акрамя гісторыкаў імя Вінцэнцiя Бучынскага (1789 — 1853) вядома сёння мала каму. Сёлета спаўняецца 225 гадоў з дня яго нараджэння.

Беларускі літаратурны крытык, філасаф, тэолаг В. Бучынскі выкладаў рыторыку і паэтыку ў езуіцкіх калегіумах Мсціслава і Віцебска, потым быў прафесарам філасофіі Полацкай езуіцкай акадэміі, якая адкрылася ў 1812 годдзе. Заснаваў першы ў Беларусі ілюстраваны літаратурна-навуковы часопіс на польскай мове «Полацкі месячнік», які выходзіў з друкарні Полацкай акадэміі на працягу 1818 — 1820 гг.

У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца шэсць нумароў «Полацкага месячніка» («Miesięcznik Połocki») за 1818 г., пераплеценых у адным томе. У наш аддзел часопіс трапіў у 1971-м з агульнага кнігасховішча. На кожным экзэмпляры прастаўлена пячатка бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Хутчэй за ўсё, у бібліятэку гэтыя рарытэты паступілі пасля вайны, калі нарабаваныя культурныя каштоўнасці пачалі вяртацца на радзіму з Германіі.

«Miesięcznik Połocki» быў першым часопісам на сучасным абшары Беларусі. Сёння гэта, несумненна, бібліяграфічная рэдкасць. Выданне мае невялікі фармат. У кожным нумары — 4-5 аркушаў (прыблізна 70 старонак тэксту). Мастацкае афармленне сціплае, гравюр мала, для аздаблення выкарыстоўваўся наборны арнамент і ксілаграфічныя застаўкі. Тытульны ліст кожнага выпуску аздаблялі словы Гарацыя: «Што праўдзіва і прыгожа, пра тое клапачуся і пытаюся і ўвесь таму адданы» («Quid verum atque decens curo et rogo, et omnis in hoc sum»). Часопіс распаўсюджваўся па падпісцы, гадавы кошт якой складаў 7 рублёў асігнацыямі, з перасылкай па пошце — 4 рублі срэбрам. А выдаваўся ён у друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі — адной з буйнейшых у Беларусі, якая была заснавана ў адпаведнасці з прывілеем Кацярыны II у 1787 г. Шрыфты набывалі ў Маскве, Пецярбургу, Польшчы і Францыі. Друкарня выдавала падручнікі і рэлігійную літаратуру на польскай, лацінскай, рускай, французскай, нямецкай мовах і латгальскім дыялекце латышскай мовы. Па-беларуску выходзілі толькі зборнікі духоўных песень.



Полацк. Езуіцкі касцёл з пабудовамі калегіума. Малюнак Напалеона Орды. 1875 — 1876 гг.

Часопіс меў шэсць аддзелаў: літаратура і свабодныя навукі, маральна-філасофскі, фізіка-матэматычны, гісторыя, крытыка, літаратурныя веды. На яго старонках побач з гістарычнымі, статыстычнымі і літаратуразнаўчымі матэрыяламі змяшчаліся і мастацкія творы, да прыкладу, пераклад трагедыі Еўрыпіда «Арэст», зроблены віцяблянінам Янам Мігановічам. У 14 нумарах, якія паспелі пабачыць свет, было 85 артыкулаў, у тым ліку ўрыўкі са старажытных рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі, якая налічвала сорак тысяч тамоў (!). На старонках «Полацкага месячніка» друкавалася шмат матэрыялаў як выкладчыкаў, так і студэнтаў полацкай альма-матар.

Прафесары Полацкай езуіцкай акадэміі пастаянна палемізавалі на старонках часопіса з віленскімі публіцыстамі. Палеміка паміж асветнікамі і клерыкаламі сведчыла пра высокі ўзровень грамадска-палітычнай думкі Беларусі таго часу і служыла выхаванню талерантнасці, павагі і памяркоўнасці да людзей іншых поглядаў.

Вінцэнцій Бучынскі таксама друкаваўся ў часопісе і набыў шырокую вядомасць удзелам у палеміцы, якая разгарнулася паміж асветнікамі і езуітамі (прафесарамі Віленскага ўніверсітэта і Полацкай езуіцкай акадэміі) на старонках часопісаў «Полацкі месячнік» і «Віленскі дзённік» вакол паэмы выкладчыка Полацкага езуіцкага калегіума Нікадэма Мусніцкага «Палтава». У другім нумары часопіса за 1818 г. змешчаны артыкул В. Бучынскага ў абарону «Палтавы». Разважаючы пра паэму Н. Мусніцкага, побач са знанымі аўтарытэтамі ў галіне гісторыі і тэорыі літаратуры ён упершыню ўзгадвае прозвішча польскага астранома М. Каперніка. Дарэчы, свае палемічныя выступленні В. Бучынскі, прафесар тэалогіі, выдаў ананімна асобнай кнігай «Аналіз аргументаў, змешчаных у рэцэнзіі на паэму "Палтава"», якая выйшла ў друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі ў 1818 г.

Цікавы матэрыял па гісторыі нашага краю друкаваўся ананімна ў трох першых сшытках часопіса. Вялікі і грунтоўны артыкул пад назвай «Кароткае паведамленне аб горадзе Полацку». Нават негатыўны да «Полацкага месячніка» гісторык А. Сапуноў прызнаў гэты артыкул самым лепшым у выпуску. Ананімны аўтар разглядае жыццё Полацка з розных бакоў: геаграфічнае становішча і кліматычныя ўмовы, гістарычнае мінулае і статыстычныя звесткі пра жыццё горада на пачатку 1818 г. Падае звесткі пра клімат краю. У прыватнасці, можна даведацца, што з 1782 па 1817 год найвышэйшая тэмпература ў Полацку была 22 ліпеня 1805 г. — плюс 30,5 градуса, а найніжэйшая 26 студзеня 1816 г. — мінус 32.

Гістарычнае мінулае падаецца ў выглядзе хронікі і пачынаецца са старажытнага рукапісу Нестара «Аб палачанах над ракой Палотай жывучых», потым апісваюцца войны Полацкага княства, вялікі голад у 1600 г., калі езуіцкая калегія карміла па 300-400 жабракоў. Каго не замарыў голад, далей піша аўтар, дабіла смяротная хвароба. У 1705 г. у Полацку быў Пётр I, у маі 1780 г. — Кацярына II, у 1802 і 1807 гг. — Аляксандр I. 11 ліпеня 1808 г. у горадзе адбыўся вялікі пажар, падчас якога згарэла 240 дамоў. У 1812 г. адкрылася езуіцкая акадэмія.

Часопіс паведамляў, што ў Полацку 18 садоў, пераважна вішнёвых і яблыневых. З 12 вялікіх вуліц толькі тры брукаваныя, а па 34 малых увесну лепей прабірацца, трымаючыся як мага бліжэй да плота. Праз горад праходзяць тры паштовыя тракты (пецярбургскі, рыжскі ды віцебска-магілёўскі) і пяць купецкіх: віленскі, лепельскі і бешанковіцкі на левым баку Дзвіны, дзісненскі з невельскім — на правым. Шырыня Дзвіны дасягае 90 сажняў, «вада чыстая і здаровая».

У гэтым артыкуле таксама публікаваліся матэрыялы пра дзейнасць акадэміі, якая апрача вучэбнага працэсу займалася дабрачыннасцю. Напрыклад, 56 дзяцей беднай шляхты мелі ў семінарыуме бясплатнае памяшканне, кнігі, ежу і лекі. 67 шкаляроў кармілі бясплатна. Дзяўчаты-беспасажніцы вучыліся ў доме для бедных. Існавала дзве багадзельні: адна за кошт езуітаў, другая — праваслаўнай Пакроўскай саборнай царквы.

Калі б часопіс полацкіх езуітаў не спыніў выхад у сакавіку 1820 г., такіх публікацый было б, відаць, значна больш. А што быў намер гэта рабіць — несумненна! Рэдакцыя часопіса адзначала: «Калі ж з цягам часу ў руках выдаўцоў акажуцца матэрыялы, якія тычацца мясцовай даўніны — старажытныя помнікі, манеты, рукапісы, яна прыкладзе ўсе старанні, каб аб гэтым пастаянна паведамляць чытачам». На жаль, мары не здзейсніліся. 13 сакавіка 1820 г. выйшаў указ царскай канцылярыі, паводле якога езуітаў высылалі па-за межы дзяржавы. Закрыта была і акадэмія, а яе маёмасць (у тым ліку друкарня і бібліятэка) перададзена ў Віцебскую казённую палату.

Полацкія езуіты рассеяліся па свеце. Вінцэнцій Бучынскі, як і многія іншыя, аказаўся за мяжой. Ён выкладаў філасофію ў навучальных установах Аўстрыі, надрукаваў у Вене сваю працу «Метафізіка. Этыка. Логіка». У яе аснову былі пакладзены лекцыі, якія ён чытаў у Полацкай езуіцкай акадэміі. У свой час гэты твор прынёс В. Бучынскаму шырокую вядомасць, пэўна таму, што ў ім шмат прысвятаў з гісторыі Рэчы Паспалітай, Беларусі. Калі трохтомнік трапіў у рукі бельгійскага караля, той неадкладна выдаў указ аб запрашэнні Бучынскага на пасаду прафесара філасофіі Лувенскага ўніверсітэта.

Вінцэнцій Бучынскі пакінуў багатую рукапісную спадчыну: працы па гісторыі, філасофіі, гісторыі Польшчы, Беларусі, праваслаўя ў Расіі. Але, на жаль, яны вельмі мала даследаваны.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

# Па таўлаеўскім маршруце

Мерапрыемствы, прымеркаваныя да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Валянціна Таўлая, прайшлі ў Лідзе. У іх брала ўдзел яго дачка Галіна Таўлай з мужам.

У цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі навуковага супрацоўніка Лідскага гісторыка-мастацкага музея Анастасіі Каладзяжнай «Этапы жыццёвых дарог», выдадзенай да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Для гасцей была арганізавана экскурсія «Шляхам Валянціна Таўлая».

Першы прыпынак — мэблевая фабрыка, на тэрыторыі якой некалі размяшчалася турма, куды падпольшчыка і партызана В. Таўлая кінулі разам з бацькам, мачахай і сястрой у верасні 1943 года. Падвальныя памяшканні і сёння нагадваюць пра тое сумна вядомае месца.

А вось і рэдакцыя «Лідскай газеты». У часы Таўлая выданне называлася «Уперад» і толькі пачынала сваё існаванне. Паэт працаваў тут у 1939 — 1941 гг. У гонар 100-годдзя з дня яго нараджэння на будынку рэдакцыі ўрачыста адкрылі мемарыяльную дошку, зробленую па праекце лідскага скульптара Рычарда Грушы.

Адзін з наступных пунктаў у таўлаеўскім маршруце — Лідскі замак. Некалі каля яго была польская школа, у якой вучыўся будучы паэт. Менавіта ў той перыяд ён напісаў першы верш «Верабейкі» на польскай мове. Побач з замкам — домік Таўлая па вуліцы Замкавай (літаратурны аддзел гісторыка-мастацкага музея), дзе паэт жыў, калі працаваў у газеце. Тут таксама з'явілася мемарыяльная дошка.

У сценах паэтавага дома работнік літаратурнага аддзела Алесь Хітрун правёў экскурсію па мемарыяльным пакоі, пазнаёміў з новым экспанатам — сцізорыкам, які некалі сапраўды належаў Валянціну Таўлаю. Паэт падарыў яго камандзіру партызанскага атрада асобага прызначэння Мікалаю Грабёнкіну. Сцізорык перадаў у дар музею сын партызанскага камандзіра.

А галоўнымі гасцямі мерапрыемстваў сталі Галіна Таўлай і яе муж Ігар Маціеўскі, якія прыехалі з Санкт-Пецярбурга. Галіна Валянцінаўна — даследчык беларускай песеннай культуры, кандыдат мастацтвазнаўства. Ігар Уладзіміравіч — кампазітар, этнограф, даследчык музычных інструментаў народаў свету, доктар мастацтвазнаўства. Ім напісаны рамансы, песні на словы некаторых беларускіх паэтаў, у тым ліку В. Таўлая. Муж і жонка шмат працуюць над захаваннем і развіццём беларускай культуры.

**Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ**

# Каханне. Лірычная формула

Ці былі вы закаханыя? Што для вас каханне ўвогуле? Не, гэта не анкета і не апытанне. «У храме кахання зямнога» — так называлася музычна-паэтычная вечарына, што адбылася ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 15 пры ўдзеле членаў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Па сваім фармаце імпрэза больш нагадвала шчырую размову духоўна блізкіх людзей. Творцы са сталічнага аддзялення СПБ разам з вядучай вечарыны, паэтэсай Інай Фраловай, спрабавалі знайсці адказы на пытанні, датычныя сутнасці пачуцця, у імя якога і святкуецца Дзень святога Валянціна. Аліна Легастаева, Дзмітрый Дземідовіч, Вольга Шпакевіч і аўтар гэтых радкоў чыталі вершы пра каханне.

Аляксандр Вашчанка прапанаваў слухачам некалькі ўласных песень пад акампанемент гітары (адна з іх — народная ў аўтарскай апрацоўцы). І. Фралова выступіла з беларускамоўнымі перакладамі лірычных твораў вядомай паэтэсы Валянціны Паліканіной. Адбывалася тут і свайго роду варажба на вялікім папяровым рамонку, пялёсткі якога змяшчалі пазітыўныя пажаданні кожнаму ўдзельніку.

Адметна, што разам з вядомымі чыталі вершы і юныя творцы Ганна Павельчук і Валерыя Ісаковіч — удзельніцы літаратурнай студыі «Малінаўскія галасы», што працуе пры гэтай бібліятэцы (кіраўніком калектыву, дарэчы, з'яўляецца І. Фралова). Маладая паэтэса Наталля Алейнікава прадставіла публіцы свае творы з калектыўнага зборніка «Мы — маладыя».

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны Дзмітрый Сяргеевіч Сіманенкаў распавёў прысутным сваю, франтавую, гісторыю кахання. Вынік творчай сустрэчы падвяла А. Легастаева, акрэсліўшы формулу глыбіннага пачуцця радком уласнага верша: «Твори всегда добро». А дабро, як вядома, перамагае ўсё.

**Яна ЯВІЧ**

# Форум з абмежаванай адказнасцю

Тыдзень нестандартных спектакляў, майстар-класаў, лекцый і дыскусій — у гэтым годзе з дзяржаўнай падтрымкай і міжнародным статусам. «ПлаSтформа Мінск» упершыню быў праведзены ў 2013-м. Яго ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі Вячаслаў Іназемцаў (пластычны тэатр «ІнЖэст», Мінск), Аляксандр Цебянькоў (танц-тэатр «Галерэя», Гродна), Іна Асламава (гурт «Quadro», Гомель). Тады ў межах форуму адбыліся паказы дзесяці розных калектываў з Беларусі.

— Мы пазіцыянавалі «ПлаSтформу» як форум пластычных і танцавальных тэатраў. Гэтым разам слова «танец» было вырашана прыбраць з назвы, — растлумачыў ідэйны натхняльнік і творчы дырэктар фестывалю Вячаслаў Іназемцаў. — Існуе шмат танцавальных гуртоў, якія спрабуюць працаваць у сучасных формах, але не ўсе яны з'яўляюцца тэатрамі і не ўсе робяць спектаклі. У гэтым годзе на ўдзел у форуме падала заяўкі значна большая колькасць кандыдатаў, даваліся правесці некаторы «адсеў». Перш за ўсё, кіраваліся яснасцю выказвання асноўнай ідэі прапанаваных спектакляў. Неістотна, у якой тэхніцы выканана прадстаўленне, важна, каб гэта быў спектакль, дзе аснова — цела акцёра. Але мы не хочам зацыклівацца на танцы і дубліраваць, напрыклад, Віцебскі фестываль сучаснай харэаграфіі. Для нас галоўнае — спектакль.

Падчас «ПлаSтформы-2014» стала больш фестывальных дзён, а спектаклі арганізоўваліся ўжо на двух сцэнічных пляцоўках: Дом культуры чыгуначнікаў і Маладзёжны тэатр эстрады. І галоўнае, форум адбыўся пры падтрымцы Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «Арт Карпарэйшн» пры ўдзеле Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. А дзякуючы Інстытуту Польскаму быў запрошаны замежны калектыў — «TeatrFormy» (Вроцлаў).

## ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

Адкрылася «ПлаSтформа-2014» спектаклем «Рамонт» тэатра «ІнЖэст» (рэжысёр Вячаслаў Іназемцаў). Ужо ў фае ДК чыгуначнікаў стала зразумела, што чакаецца не зусім звычайная



Фота з сайта www.inzhest.belorus.by

*Сцэна з пастаноўкі «Захавальнікі», студыя сучаснага танца «Паралелі».*

пастаноўка. На дзвярах залы для гледачоў вісела таблічка «Рамонт». І толькі пасля адкрыцця заслоны стала зразумела, што дзеянне спектакля адбываецца на «будпляцоўцы», у якую ператварылі залу для гледачоў, а самі гледачы назіралі ўсё са сцэны, седзячы на газетах. Падчас пастаноўкі рабочыя ў брудных камбінезонах бесперапынна нешта свідравалі, фарбавалі і тынкавалі, у той час як «на сцэне» разгортвалася жыццё людзей на балоце. Галоўнай ідэяй пры стварэнні спектакля стала перакуленая сістэма каардынат, якая змяняе звыклую тэатральную прастору. У некаторых сцэнах было задзейнічана амаль два дзясяткі акцёраў, сюжэт разгортваўся адначасова ў некалькіх месцах партэра, а ў фінале яшчэ і на балконе.

Тэатр «ІнЖэст» традыцыйна выступае ў «нетэатральных» месцах: на вуліцы, у гарадскім або прыродным ландшафце, у фабрычным цэху, басейне ці на воданапорнай вежы, выкарыстоўваючы дзверы адрыны, дах ці сцяну хаты — усё можа стаць імпульсам для нараджэння адметнай прасторавай драматургіі, якая ўзнікае са зліцця-супрацьстаяння цела акцёра і прасторы. На спектаклях «ІнЖэста» трэба быць гатовым адмовіцца ад звыклага глядацкага камфорту.

## НЕ ДЛЯ СЛАБОЙ ПСІХІКІ

Што застанецца пасля нас на зямлі? Які працяг чакае чалавека пасля смерці фізічнага цела? Што ці каго мы сустрэнем на сваім шляху? Адказы на гэтыя пытанні можна было знайсці ў спектаклі «Насельнікі Смерці» эксперыментальнага тэатра «T(e)=Art».

Першы склад фрык-тэатра «T(e)=Art» быў утвораны ў 2007 годзе. Галоўная ідэя — раскрыццё ўнутранага патэнцыялу чалавека. Філасофія развіцця пластычнай формы кожнага ўдзельніка «T(e)=Art» з'яўляецца ўнікальным працэсам пазнання праз унутраныя перажыванні акцёра. Калектыў вядомы мінчанам у асноўным вулічнымі выступленнямі на вуліцы Карла Маркса. На леташнім форуме дэбютаваў са спектаклем «Эдысан, ці як дайсці да лямпачкі». А гэтым разам у новай пластычнай містэрыі «Насельнікі Смерці» «T(e)=Art» прапанаваў сваю версію падарожжа, якое чакае ўсіх пасля смерці фізічнага цела. Асобна — пра саўндтрэк да спектакля, напісаны рэжысёрам трупы. Музыка замяняе гаворку персанажаў і арганічна стварае неабходную атмасферу. Варта адзначыць: гэтая пастаноўка — для людзей з моцнай псіхікай.

Адэкватны тэатр «вКубе», які быў заснаваны студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, таксама браў удзел у леташнім форуме са спектаклем «Шарлотка». Гэтым разам пастаноўкай «Аніма» калектыў паразважаў над праблемай зносін мужчыны і жанчыны. Рэжысёр Вераніка Аганісян адзначыла, што праца над спектаклем ішла даволі цяжка і яшчэ будзе працягвацца. «T(e)=Art» не эпаціруе публіку, не выкарыстоўвае пластыку ў агульнапрынятым сэнсе, а імкнецца сінтэзаваць у творчасці як мага больш відаў мастацтва. Пры ўсім мінімалізме



Фота БелТА

*Сцэна са спектакля «Рамонт», тэатр «ІнЖэст».*

дэкарацый і бутафорыі гледачу прапануецца глыбокае разважанне на актуальную тэму: калі мы забіваем у сабе імкненні і жаданні, не падтрыманыя соцыумам, калечым саміх сябе.

## ЛОКШЫНА ХУТКАГА ПРЫГАТАВАННЯ

На сцэне гара з ружовых падарункавых скрынак: выступае тэатр танца «KARAKULI» са спектаклем «Атракцыён з абмежаванай адказнасцю». У якасці атракцыёна гледачам прапанавалі танцавальна-пластычную гісторыю: ад нараджэння ўзаемнай цікавасці да ўсплёску гарачага кахання і яго паступовага згасання. Тут ніхто ні за што не адказвае, ніхто не ведае сцэнарыя і ніхто ні ад чаго не застрахаваны. Галоўныя героі знаходзяцца пад пільным наглядам двух цікаўных персанажаў, якія ўвасабляюць ці анёлаў-захавальнікаў, ці нейкія вышэйшыя сілы, што адорваюць закаханых то пялёсткамі руж, то локшынай хуткага прыгатавання.

Монаспектакль «Бог Сонца» польскага пластычнага тэатра «TeatrFormy» выканаў акцёр і рэжысёр Юзаф Маркоцкі. У аснове перформансу — кніга «Геліагабал» французскага драматурга і тэатральнага дзеяча Антанена Арто, які стварыў «тэатр жорсткасці». У працэсе працы над спектаклем Ю. Маркоцкаму спатрэбіліся веды ў галіне славянскай міфалогіі, а таксама асабістыя ўражанні ад вывучэння мясцовых звычаяў народаў Сібіры.

Малыя тэатральныя формы падчас «ПлаSтформы-2014» прадставілі Анастасія Махава і Яўген Тышэвіч — удзельнікі віцебскай студыі сучаснага танца «Паралелі». У пастаноўцы «Захавальнікі» артысты спрабавалі захаваць цяпло адносін, падзяліцца адзін з адным часткай сябе. А тэатр танца «Skvo'sDanceCompany» паказаў спектакль «Я ў n-ай ступені». Разважанні на тэму, чаму чалавек унутры сябе і ў вачах навакольных не адзін і той жа?

## ГУЛЬНІ З ЦАЦКАМІ

Заключны дзень «ПлаSтформы» прайшоў у Маладзёжным тэатры эстрады ў кампаніі калектыву з Магілёва «Laboratory Figures Oskar Schlemmer». Прадстаўленне «Мёртвыя ды жывыя фігуркі» пачалося з эпіграфа: «Калі да



Фота з сайта www.inzhest.belorus.by

*Сцэна са спектакля «Атракцыён з абмежаванай адказнасцю», тэатр танца «KARAKULI».*

канца прадумаць усё, што мы ведаем пра чалавечыя паводзіны, яны пададуцца нам толькі гульнёй». У спектаклі не было выразнай сюжэтнай лініі — набор урыўкаў і сцэн. Падчас пастаноўкі акцёры ўзаемадзейнічалі з разнастайнымі прадметамі, але назваць гэта лялечным прадстаўленнем будзе няправільна, таму што фігуркі гэтыя зусім не галоўныя дзеючыя асобы, а хутчэй аб'екты жорсткага эксперыменту. Стварэнне і знішчэнне цацачнага свету. Так робяць дзеці, здольныя гадзінамі будаваць замкі з пяску, а затым без шкадавання разбурыць іх ударам нагі. Так робяць і дарослыя, здольныя гадамі ствараць адносіны, якія можа разбурыць адна фраза.

Адкрыты форум пластычных і эксперыментальных тэатраў «ПлаSтформа-2014» не абяцаў веселосці ва ўсім. Некаторыя спектаклі сапраўды лёгкія і яркія. Іншыя, наадварот, «інтраверты», і каб зразумець іх, патрэбна падрыхтоўка, а часам і тлумачэнні крытыкаў. Фэст толькі зараджаецца: вялікай агалоскі ў СМІ пакуль не атрымаў, але развіццё яго працягваецца. Арганізатары спрабуюць навучыць публіку любіць не толькі класічны балет.

**Таццяна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2548.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.02.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 631.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14009